● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

29 студзеня 1998 г. чацвер, № 21 (23372)



# ЗВЯЗДА

*СКАНДАЛ*

## Прадпрымальны старшыня

**Дакладней, у зводкі МУС трапілі два такіх старшыні — адзін — старшыня калгаса, а другі — старшыня адной з грамадскіх арганізацый Наваполацка. Абодва папаліся на крадзяжах у асабліва буйных памерах.**

Гісторыя, якую «раскруцілі» супрацоўнікі маладзечанскай і валожынскай міліцыі наогул уражвае. Так, старшыня аднаго з калгасаў Валожынскага раёна, абмеркаваўшы з галоўным бухгалтарам усе вядомыя спосабы падзарабіць, спыніўся на даволі, на іх думку, выгадная справе: вырашыў «узяць» банк. Прытым без банальнай страляніны. Засталося толькі аформіць адпаведныя паперы. Што, дарэчы, крыху пазней яны і зрабілі. А потым падложныя дакументы на атрыманне быццам бы гаруча-змазачных матэрыялаў прадставілі ў Валожынскае аддзяленне «Белаграпрамбанка» з мэтай атрымання крэдыту на 150 мільёнаў рублёў. Праўда, гэтую махінацыю своечасова выявілі.

Што датычыцца наваполацкага старшыні адной з грамадскіх арганізацый, то ён «пагарэў» на поліэтыленавай плёнцы. Следства ўстанавіла, што, злоўжываючы сваім службовым становішчам, прадпрымальная асоба ўкрала ў сваёй жа арганізацыі тры тоны гэтага матэрыялу коштам больш як 58 мільёнаў рублёў. Зразумела, раскрадальнік затрыманы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Больш сонца — больш праблем?

**Будзьце асцярожныя 29 студзеня: у гэты дзень чакаецца неспрыяльнае спалучэнне фактараў надвор'я і неспакойнага геамагнітнага поля.**

Так званае касмічнае надвор'е (сонечныя ўспышкі, магнітныя буры) аказваюць значны ўплыў на самаадчуванне і здароўе людзей. Таму ў бліжэйшыя дзень-два можна чакаць абвастрэння такіх захворванняў, як ішэмічная хвароба сэрца, гіпертанія, вегетасасудзістыя парушэнні, псіхаэмацыянальныя расстройствы. Спецыялісты мяркуюць, што на гэты раз сонечная актыўнасць будзе асабліва моцная.

Касмічнае надвор'е ўплывае і на многія тэхнічныя сістэмы, на лініі электраперадач, трубаправоды, касмічную тэхніку. Год таму, напрыклад, сонечная ўспышка вывела са строю прыборы кіравання спадарожніка «Тэлестар». Касмічны апарат коштам 132 мільёны долараў быў згублены.





*Снежная горка.*
*Дзеці*
*злётваюць долу —*
*ці, можа,*
*увышыню?!.*

**Алесь РАЗАНАЎ**
*«Пункціры»*

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ СА СЛАБАДАНАМ МІЛОШАВІЧАМ

**Як старых добрых сяброў сустракаў 28 студзеня Бялград беларускую дэлегацыю на чале з прэзідэнтам нашай краіны Аляксандрам Лукашэнкам.**

У яе састаў увайшлі таксама Старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук, парламентарыі, члены беларускага ўрада, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, кіраўнікі шэрагу рэгіёнаў і прадпрыемстваў.

Першы афіцыйны візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Саюзную Рэспубліку Югаславію пачаўся з сустрэчы з прэзідэнтам гэтай краіны Слабаданам Мілошавічам: у другой палове дня кіраўнікі дзвюх дзяржаў правялі перагаворы сам-насам. Затым у рэзідэнцыі прэзідэнта Югаславіі «Белы двор» адбыліся перагаворы ў пашыраным саставе з удзелам членаў беларускай афіцыйнай дэлегацыі. Вечарам ад імя прэзідэнта Слабадана Мілошавіча ў Палаце Федэрацыі СРЮ быў дадзены афіцыйны абед у гонар прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

На другі дзень візіту ў беларускага прэзідэнта намечана насычаная праграма. Спачатку ён правядзе перагаворы з прэм'ер-міністрам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Радае Конціч, а таксама сустрэнецца з кіраўніцтвам Нацыянальнага алімпійскага камітэта Югаславіі. Затым Аляксандр Лукашэнка і члены беларускай афіцыйнай дэлегацыі наведаюць мемарыяльны комплекс «Авала» і ўскладуць вянкі да помніка Невядомаму салдату. Кіраўнік нашай дзяржавы пабывае на некаторых югаслаўскіх прадпрыемствах і азнаёміцца з іх работай. А вечарам ён правядзе яшчэ адну сустрэчу — на гэты раз з прадстаўнікамі югаслаўскіх гаспадарчых і дзелавых колаў.

Завершыцца візіт беларускай дэлегацыі ў Саюзную Рэспубліку Югаславію 30 студзеня падпісаннем шэрагу міжурадавых пагадненняў.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*УВАГА: «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»!*

### Вам адкажа міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч БАТУРА



Усіх нас, канешне, хвалююць шматлікія штодзённыя жыллёвыя пытанні. Ці будзе цёпла ў кватэрах, якой вадой мы будзем карыстацца, колькі прыйдзецца плаціць у далейшым за камунальныя паслугі — колькасць праблем амаль астранамічная. Магчыма, больш хуткаму і дзейснаму іх вырашэнню паспрыяе ваша асабістая размова з міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барысам Батурам. **«Прамую лінію» з яго ўдзелам «Звязда» праводзіць 11 лютага з 14 да 15 гадзін.** Задаць свае пытанні міністру ў гэты час можна па тэлефонах: (8-017) 232-38-21; 232-38-92.

Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне (8-017) 268-27-51 і пісьмовых допісаў на адрас рэдакцыі: 220013, г. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда».

## ІВАН КАРАТЧЭНЯ ЎПЭЎНЕНЫ Ў ТЫМ, ШТО Ў СНД ДОБРЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў-удзельніц СНД адбудзецца 19 сакавіка, і на ёй будуць разгледжаны два блокі пытанняў, першы з якіх датычыць рэфарміравання органаў Садружнасці, а другі будзе прысвечаны разгляду прапановы Нурсултана Назарбаева аб адзінай эканамічнай прасторы. Аб гэтым паведаміў выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня на прэс-канферэнцыі для журналістаў, якая адбылася 28 студзеня.

Паводле яго слоў, Садружнасць за шэсць гадоў свайго існавання нядрэнна зарэкамендавала сябе як аб'яднанне дзяржаў, што імкнуцца разам вырашаць праблемы калектыўнай бяспекі, эканомікі, культуры, адукацыі і іншых сфер унутранай і знешняй палітыкі. Разам з тым Іван Каратчэня пагаджуўся, што ўтварэнне ўнутры СНД саюзы «двух» і «чатырох», а таксама саюз сярэднеазіяцкіх дзяржаў функцыяніруюць больш эфектыўна. Асабліва гэта датычыцца Саюза Беларусі і Расіі, што і пацвердзілася на нядаўняй сустрэчы прэзідэнтаў дзвюх дзяржаў, якая адбылася ў Маскве.

Аб сваім будучым Іван Каратчэня пакуль што нічога не ведае. Ён гатовы прадоўжыць дзейнасць на гэтай пасадзе, а калі здарыцца інакш, то яго веды могуць спатрэбіцца ў ВНУ, парламенце, на дыпламатычнай рабоце.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**




## СТАРТ АКАЗАЎСЯ ЗМАЗАНЫМ

### *Учора ў Раўбічах стартаваў V чэмпіянат Еўропы па біятлону*

Як па заказу, да гэтай спартыўнай падзеі ў рэшце рэшт пайшоў снег. Хоць арганізатары турніру ўжо мала спадзяваліся на дапамогу нябеснай канцыляры і змайстравалі трасу ўласнымі сіламі. Праўда, для гэтага прыйшлося задзейнічаць 400 чалавек. Усяго ж затраты на падрыхтоўку да першынства кантынента склалі каля 2 мільярдаў рублёў.

Мяркуючы па выніках першага дня спаборніцтваў, калі былі разыграны 4 камплекты ўзнагарод, для беларускіх «стралковых лыжнікаў» дэбют не ўдаўся. Цяжка сказаць, ці то гэта трэнерская хітрасць перад Алімпійскімі гульнямі ў Нагана, ці проста нейкі пралік. Аднак у выніку выпадку 52 промахі на 8 чалавек, якія з'яўляюцца кандыдатамі ў нацыянальную зборную Беларусі, — гэта зашмат.

Першымі выйшлі на старт мужчыны. Гонка на 20 км для спартсмена — выпрабаванне не з лёгкіх. Усё ж такі чатыры агнявых рубяжы. На жаль, у нашых біятланістаў тугавата было са стральбой. Своеасаблівы асабісты «рэкорд» устанавіў алімпійскі чэмпіён Аляксандр Папоў, які ўмудрыўся на кожным агнявым рубяжы мазаць па два разы. У выніку — 8 штрафных хвілін і 18-е месца. У Івана Песцерава 4 «штрафы» і 10-я пазіцыя ў падагульняючым пратаколе. Крыху лепшы вынік з пяццю промахамі паказаў Вадзім Сашурын — 7-е месца. Вельмі блізка да п'едэстала быў Алег Рыжанкоў, аднак з чатырма штрафнымі хвілінамі — толькі чацвёртае месца. А тройка прызёраў выглядае так: 1. Сяргей Ражкоў (Расія); 2. Ходдзе Штэфан (Германія); 3. Ільмар Врыцыс (Латвія).

Яшчэ больш няўдала выступілі нашы жанчыны. Святлана Парамыгіна з пяццю штрафамі змагла «зачапіцца» толькі за 5-е месца. У Наталлі Рыжанковай адпаведна 6 промахаў і 10-я пазіцыя. На адну штрафную хвіліну больш — у Наталлі Мароз (13-е месца). Ну, а найбольшай недакладнасцю вызначылася Ірына Тананайка — аж 13 хвілін штрафу і 32-е месца.

Верагодна, такі «залёт» стане прадметам для дэталёвых «разборак», і за выхадны, які будзе сёння, нашым біятланістам удасца знайсці рэцэпт больш дакладнай стральбы.

Увесь п'едэстал у жаночай гонцы на 15 км аказаўся расійскім: 1. Наталля Таланава; 2. Святлана Чарнавусава; 3. Ірына Дзьячкова.

Заўтра зноў будуць разыграны ўзнагароды ў чатырох дысцыплінах: пройдуць спрынтарскія гонкі — 10 км мужчыны і юніёры і 7,5 км — жанчыны і юніёркі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 28 СТУДЗЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 42050 | 42500 | 23400 | 23900 | 6950 | 7000 | 636-080 |
| Белаграпрамбанк | 41000 | | 22300 | | 6600 | | 285-716 |
| Беларускі біржавы банк* | 41500 | 42500 | 23000 | 24000 | 6700 | 7100 | 685-523 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 31630.00 | | 17562.47 | | 5230.00 | | Курс на 29.01.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0230 | | 3.3536 | | 10000 BLR - 1.4056 | | |

*Каціруецца ўкраінская грыўня

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў неганлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

Агенцтва ГРАЎЦОВА.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 42800 | 42900 | 23788 | 23850 | 7073 | 7091 |

# У БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКІХ АДНОСІНАХ ПРАБЛЕМ НЯМА

«Вы многае зрабілі для плённага развіцця беларуска-кітайскіх адносінаў», — такую ацэнку даў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг трохгадовай рабоце ў нашай краіне Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла КНР Чжао Сідзі ў час іх сустрэчы 27 студзеня. Кіраўнік урада адзначыў высокі ўзровень палітычных, эканамічных і культурных кантактаў дзвюх краін. «У нас супадаюць пазіцыі па палітычных пытаннях, а таксама па тым, як павінны развівацца эканамічныя рэформы, — падкрэсліў Сяргей Лінг. — Мы лёгка знаходзім разуменне па самых складаных праблемах».

Прэм'ер-міністр высока ацаніў і далейшыя перспектывы двухбаковага беларуска-кітайскага супрацоўніцтва. Тым больш што для гэтага ёсць усе падставы: у лепшы бок мяняецца тавараабарот, які, дарэчы, у мінулым годзе са студзеня па лістапад склаў 90 мільёнаў 741 тысячу долараў ЗША. У Кітаі з задавальненнем купляюць нашы калійныя ўгнаенні, «БелАЗы», а для Беларусі ў сваю чаргу карысны вопыт гэтай дзяржавы ў развіцці свабодных эканамічных зон.

Як вядома, Чжао Сідзі ў лютым пакідае Беларусь. У сувязі з гэтым ён адзначыў, што яму сумна расставацца з нашай гасціннай краінай. «Гады, праведзеныя на беларускай зямлі, сталі для мяне важнымі і значнымі. Дзе б я ні працаваў, я з задавальненнем буду ўспамінаць пра іх», — сказаў Чжао Сідзі.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

# Цэнтр рэабілітацыі інвалідаў будзе

**27 студзеня ў Мінску адбылося пасяджэнне Камісіі па сацыяльных пытаннях Савета Рэспублікі. На гэтым пасяджэнні камісія цікавілася пытаннямі выканання ў рэспубліцы Закона аб правах дзіцяці.**

На разгляд камісіі быў прапанаваны праект па стварэнню маладзёжнага цэнтра сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў у Мінску. На жаль, да гэтага часу праблема рэабілітацыі інвалідаў, тым больш інвалідаў-сірот, вырашалася ў рэспубліцы даволі слаба. На гэты раз кіраўніцтвам камісіі на пасяджэнне былі запрошаны адказныя асобы цэлага шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, менавіта ад якіх залежыць будучыня дзяцей-інвалідаў. Ні для кога не сакрэт, што ў сённяшнім цяжкім эканамічным становішчы амаль немагчыма адшукаць дадатковыя сродкі на фінансаванне вышэй памянёнага праекта. Але па словах старшыні камісіі Інесы Драбышэўскай настаў час перайсці ад размоў да справы. Акрамя таго грошы на рэканструкцыю будынка цэнтра і яго абсталяванне выдзяляюць філантропы з Германіі.

Пад старшынствам І. Драбышэўскай камісія адобрыла праект маладзёжнага цэнтра сацыяльнай рэабілітацыі ў Мінску і вырашыла стварыць рабочую групу, якая і будзе ажыццяўляць прынятае рашэнне. Акрамя таго Камісія па сацыяльных пытаннях Савета Рэспублікі рэкамендавала Мінгарвыканкаму сумесна з Дзяржкамітэтам Рэспублікі Беларусь па справах моладзі падабраць будынак, які можна будзе выкарыстаць для стварэння на яго базе цэнтра рэабілітацыі інвалідаў. Ідэю стварэння цэнтра падтрымаў і загадчык аддзела Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Юрый Мальцаў. У прыватнасці, ён адзначыў, што праект гэтага цэнтра — толькі пачатак справы, потым трэба будзе будаваць яго філіялы па ўсёй Беларусі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*Ходзяць чуткі, што...*

# ... уведзены ліміт на продаж айчынных халадзільнікаў

**Гэтая пагалоска напрамую звязана з АТ «Атлант». Нібыта з-за праблемы незадаволенага попыту на пастаўку халадзільнікаў у Расію і іншыя краіны СНД прадпрыемства вымушана было пайсці на ўвядзенне ліміту на розгнічны продаж бытавых халадзільнікаў і маразільнікаў для айчынных спажыўцоў: адзін пакупнік у дзень можа купіць не больш аднаго «Атланта». Па каментарый мы звярнуліся на завод.**

— Усе гэтыя чуткі не адлавядаюць рэчаіснасці, — адразу катэгарычна заявіў начальнік аддзела маркетынгу прадпрыемства Сяргей Саніковіч. — З кожным магазінам у нас заключаны дагавор, які мы выконваем. Больш таго, фактычна за тры тыдні мы ўжо выканалі план паставак сваёй тэхнікі на рэспубліку за студзень.

Як адзначыў далей Сяргей Мікалаевіч, сапраўды, бываюць моманты, калі попыт можа значна — у 2-3 разы — перавышаць прапанаванне. Напрыклад, так было летам, калі з-за гэтага «Атланты» не заўсёды можна было знайсці ў продажы.

— Цяпер ніякіх абмежаванняў няма. Калі ў чалавека ёсць грошы (самая танная наша мадэль каштуе 9 млн. 700 тысяч рублёў, самая дарагая — 17 млн. рублёў) і ў продажы ён бачыць тое, што яму падабаецца, ніхто не будзе ствараць яму нейкіх перашкод, — падкрэсліў Сяргей Саніковіч. — Хаця простаму чалавеку, не «чайнаку», болей аднаго халадзільніка ці маразільніка і не патрэбна.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*Футбол*

# «Дынама» (Мінск) — «Капетдаг» (Ашгабад) — 1:7! Ганьба!

Чарговы «Малы футбольны чэмпіянат Саюза», як ахрысцілі маскоўскі турнір — Кубак чэмпіёнаў Садружнасці, набірае абароты. Мінскія дынамаўцы сёння ўжо могуць ганарыцца агульным другім месцам у групе і выхадам у чвэрцьфінал — яны прайгралі маскоўскаму «Спартаку» — 1:8, і выйгралі ў армянскага «Ерэвана» — 2:0 і таджыкскага «Вахша» — 4:1.

Апошняя сустрэча з «Вахшам» была для дынамаўцаў надзіва цяжкай. Таджыкі, якія напярэдадні былі ў літаральным сэнсе абясслаўлены маскоўскім «Спартаком» — 0:19, глядзеліся на турніры вельмі ўжо слаба і, здавалася, пытанняў з перамогай у нашых футбалістаў не павінна было быць. Як бы не так! Беларусы самі сабе пачалі ствараць праблемы і, хоць з цяжкасцю, але ж пераадолелі іх, пачаўшы рэалізоўваць моманты толькі пад заслону матча. Перамога, выхад у чвэрцьфінал і новы сапернік дынамаўцаў — туркменістанскі «Капетдаг», які ў сваёй групе заняў першае месца, перамогшы малдаўскі «Канструктарол-93» — 3:0, літоўскую «Карэду» — 2:0 і згуляўшы ўнічыю з маладзёжнай зборнай Расіі — 0:0.

Дарэчы, у чвэрцьфінальных матчах сустрэнуцца: «Спартак» (Масква) — «Карэда» (Шаўляй, Літва), «Сконта» (Рыга, Латвія) — «Кяпаз» (Гянджа, Азербайджан).

**P.S.** *Учора адбыліся дзве чвэрцьфінальныя сустрэчы, вынікі якіх мы паспяваем даць у нумар: «Дынама» (Мн.) — «Капетдаг» — 1:7, «Дынама» (Кіеў) — «Дынама» (Тб) — 1:0.*

**Алесь СІВЫ.**

*Званок у рэдакцыю*

# «Чаму мы, вяскоўцы, кусаем хлеб, а яго цана «кусае» нас...»

Званок у рэдакцыю быў ад старасты вёскі Малінаўшчына Чашніцкага раёна Э. Латышава. Па просьбе сельскіх жыхароў Эдуард Ягоравіч звярнуўся да нас з пытаннем, чаму ў іх краме такі дарагі хлеб. Напрыклад, увесь снежань кошт бохана, якія дастаўляюцца з Новалукомля, быў 8.600—8.800 рублёў.

Пасля званка ў аддзел гандлю райвыканкама пачалі прывозіць па ніжэйшай і, як кажуць, даступнай цане — 6.100—6.800 рублёў за булку. Але так працягвалася прыкладна два тыдні. А затым зноў сталі прадаваць па ранейшай цане.

Вось, як зазначыў Эдуард Ягоравіч, у людзей і ўзнікае неўразуменне, чаму такая розніца і нестабільнасць у кошце чорнага хлеба? У той жа час у крамах суседняга Сенненскага раёна ён пастаянна таннейшы. Праўда, каб набыць яго там, трэба дабірацца за 6-7 кіламетраў, што даволі нязручна і не пад сілу пенсіянерам і пажылым людзям.

Мы звязаліся па тэлефоне з Чашніцкім раённым выканаўчым камітэтам. Загадчыца аддзела гандлю і прадпрымальніцкай дзейнасці Зінаіда Федарцова растлумачыла сітуацыю так:

— Усё, аб чым вам патэлефанаваў Э. Латышаў, правільна, так яно і ёсць у рэальнасці. На сённяшні дзень гэта балючае пытанне не толькі для спажыўцоў, але і для райвыканкама. Мы нікольki не зацікаўленыя, каб нашы людзі куплялі хлеб па высокай цане. Асноўная праблема заключаецца ў тым, што не толькі Малінаўшчыну, але і ўвесь раён хлебам забяспечвае Новалукомскі хлебазавод. Выдаткі яго на вытворчасць сваёй прадукцыі, яе дастаўку ў гандлёвыя кропкі не дазваляюць рэалізоўваць хлеб па нізкіх цэнах. Інакш завод панясе немалыя страты. Скажам, адлегласць ад Новалукомля да той жа Малінаўшчыны — 55 кіламетраў.

Варта мець на ўвазе і тое, што, акрамя звычайнага, прадпрыемства выпякае і палепшаныя сарты, кошт якіх, зразумела, вышэйшы. Каб зменшыць вастрыню гэтага пытання, пачаргова і пастаўляюцца ў магазіны то дарагія, то крыху таннейшыя хлебабулачныя вырабы.

Райвыканкам даў даручэнне кіраўніцтву хлебазавода дэталёва зрабіць усе разлікі па вытворчасці сваёй прадукцыі з тым, каб па магчымасці знізіць яе сабекошт, а адпаведна і цэны. Дарэчы, сёння кіраўнікі хлебазавода запрошаны ў райвыканкам, каб разам вырашыць гэта сур'ёзнае пытанне.

Будзем спадзявацца, што так яно і будзе зроблена.

**Аддзел пісьмаў.**

# «Заходні Буг» кажа «так» абароне эканамічных інтарэсаў краіны

**«Калі раней мытня глядзела ў кашалёк грамадзян, дык зараз гэта калі і не зусім пайшло з жыцця, то, ва ўсякім разе, такому падыходу ўжо не надаецца ранейшага значэння. На сённяшні дзень парушэнні мытных правілаў перамясціліся ў сферу грузавога абароту», — заявіў перад журналістамі начальнік мытні «Заходні Буг», дзяржаўны саветнік мытнай службы трэцяга ранга Вячаслаў Осінцаў.**

— Простым змяненнем кода тавара можна атрымаць і 50 і 100 тысяч долараў. Напрыклад, калі правесці праз граніцу груз шакаладных цукерак пад выглядам карамелі, — патлумачыў Вячаслаў Осінцаў. — І калі мытнік не зверыць дакументы...

Аб вялікіх аб'ёмах такой працы сведчаць наступныя лічбы: за мінулы год на мытні «Заходні Буг» было выяўлена 4205 фактаў адміністрацыйных мытных парушэнняў і кантрабанды на суму звыш 165 млрд. рублёў (у 1996 годзе — 2538 выпадкаў).

Мытня «Заходні Буг» уключае 11 пунктаў мытнага афармлення: 4 унутраных і 7 пагранічных. Найбольш буйнымі з іх (дарэчы, не толькі ў Беларусі, але і на абсягах усяго былога СССР, а ў свеце ёсць яшчэ толькі два падобных) з'яўляюцца «Варшаўскі мост» і «Казловічы». Свае пасты мытня мае на граніцах з Польшчай і Украінай, прычым, з кожным годам напружанасць на гэтых напрамках узрастае.

Летась у мытных адносінах было афармлена 2.269.034 грамадзяніны. Штодзень афармлялася 170 аўтобусаў, 4687 легкавых аўтамабіляў, 1087 грузавых, 12,3 тыс. тон розных грузаў, 16.838 грамадзян. Каб разгрузіць іншыя невялікія пункты і паскорыць мытныя працэдуры, на тэрыторыі ААТ «Саваўта-Брэст» быў адчынены выязны мытны тэрмінал.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Пеленг-навіны

**КЛІНТАН ВЫСТУПІЎ З ДАКЛАДАМ АБ СІТУАЦЫІ Ў КРАІНЕ**

Прэзідэнт ЗША Клінтан заявіў, што іракскае кіраўніцтва не мае права аспрэчваць волю міжнароднага супольніцтва. У штогадовым звароце да нацыі ён заўважыў, што Злучаныя Штаты не дапусцяць распрацоўкі і выкарыстання Багдадам зброі масавага знішчэння. Клінтан звярнуўся да кангрэса з просьбай аб выдзяленні 18 мільярдаў долараў для папаўнення сродкаў Міжнароднага валютнага фонду. Ён заклікаў заканадаўцаў падтрымаць яго рашэнне аб прадаўжэнні тэрміну прысутнасці амерыканскіх войскаў у Босніі, а таксама ратыфікаваць пагадненне аб пашырэнні НАТО і забароне ядзерных выпрабаванняў.

**ГАРНЯКІ ЎЗЯЛІ Ў ЗАЛОЖНІКІ СВАЙГО ДЫРЭКТАРА**

Дырэктар і група інжынераў шахты «Кузнецкая» ў Кемераўскай вобласці ўжо на працягу двух дзён заблакіраваны гарнякамі ў кабінеце кіраўніка прадпрыемства. Рабочыя сцвярджаюць, што ўжо паўгода не атрымліваюць зарплаты, і патрабуюць неадкладна ліквідаваць запазычанасць. Дырэктар адмовіўся сустрэцца з прадстаўнікамі мясцовых уладаў на той падставе, што прадпрыемства належыць дзвюм іншаземным кампаніям.

**КОЛЬКІ КАШТУЕ ПРАЦА КАСМАНАЎТА?**

Расійска-французскі экіпаж адпраўляецца сёння з Байканура на арбітальную станцыю «Мір». Расійскія касманаўты заключылі кантракты з ракетна-касмічнай карпарацыяй «Энергія». Паводле звестак ІТАР—ТАСС, яны будуць атрымліваць 100 долараў за дзень касмічнай экспедыцыі. Выхад у космас і пераадоленне розных цяжкасцяў ацэньваецца асобна і складае каля тысячы долараў. Касманаўты прабудуць на станцыі да жніўня.

**ЯШЧЭ АДНА ВЕРСІЯ ГІБЕЛІ «ТЫТАНІКА»**

Адной з галоўных прычын гібелі «Тытаніка» сталі звычайныя карабельныя заклёпкі. Да такой высновы прыйшоў амерыканскі спецыяліст у галіне металургіі з Нацыянальнага інстытута стандартаў і тэхналогій Цімаці Фоэк, ажыццявіўшы структурны і хімічны аналіз паднятых з акіянскага дна некалькіх заклёпак з корпуса «Тытаніка». У выніку сутыкнення лайнера з айсбергам заклёпкі, якія змацоўвалі стальныя лісты корпуса «Тытаніка», не вытрымалі напружання і пачалі ламацца. У падводнай частцы лайнера ўздоўж некалькіх швоў, дзе стыкаваліся стальныя лісты, утварыліся 6 шчылін шырынёй у чалавечую руку. Праз іх унутр «Тытаніка» хлынула вада.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё-РОКС».**

*Погляд*

# Парадак падаткаабкладання: прафсаюзы супраць

Цяперашні парадак падаткаабкладання зыходзячы з гадавога сукупнага даходу нельга лічыць прымальным — такую думку выказаў на сустрэчы з журналістамі намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Антон Матусевіч.

Паводле слоў Антона Матусевіча, калі ўлічыць сярэднія заробкі ў краіне і іх суадносіны з мінімальным спажывецкім бюджэтам, то спробы абкласці некаторыя катэгорыі грамадзян Беларусі «дадатковым» падаходным падаткам выглядаюць не зусім дарэчна. Спадар Матусевіч, апроч таго, звярнуў увагу на такія акалічнасці, што канчатковы парадак падаткаабкладання, па сутнасці, вызначаны заднім чыслом, а таксама задаўся пытаннем, у якую суму абыйдзецца дзяржаве сама арганізацыя дэкларавання. Таму, на думку ФПБ, найбольш аптымальна было б прыпыніць падачу дэкларацый і заканадаўча ўрэгуляваць падаткаабкладанне. З гэтай нагоды Федэрацыя прафсаюзаў збіраецца звярнуцца са адпаведным пісьмом да Прэзідэнта і Канстытуцыйнага суда.

**Сяргей ГРЫБ.**

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ РЭСПУБЛІКІ МАЮЦЬ НАМЕР ПРЫПЫНІЦЬ ПРАЦУ З ЛЮТАГА ГЭТАГА ГОДА

**З 1 лютага могуць спыніць працу некалькі дзесяткаў прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках рэспублікі.**

**Пра гэта 28 студзеня на прэс-канферэнцыі заявіў старшыня рэспубліканскага савета прафсаюза «Садружнасць» Алег Бортнікаў.**

У доказ ён прадставіў больш чым тысячу заяў прыватных прадпрымальнікаў у падатковыя інспекцыі прыкладна аднолькавага зместу. «У сувязі з тым, што дзеючая цяпер заканадаўчая база, закліканая рэгламентаваць дзейнасць прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы, занадта вольна інтэрпрэтуецца...», прадпрымальнікі паведамляюць аб прыпыненні, з-за стратнасці, сваёй дзейнасці і ўплаты ставак фіксаванага падатку з лютага гэтага года і да поўнага прасвятлення сітуацыі. Працэс падачы такіх заяў, паведаміў А.Бортнікаў, пачаўся па ўсёй рэспубліцы, а яго вынікам можа стаць тое, што бюджэт рэспублікі пазбавіцца значнай часткі паступленняў.

Па інфармацыі А.Бортнікава, на просьбу прафсаюзаў прадпрымальніцтва і Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый станоўча адрэагаваў першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч і даручыў старшыні ДПК і міністру фінансаў разгледзець пытанне аб адмене змяненняў і дапаўненняў у Метадычныя ўказанні падатковай інспекцыі на працягу дзесяці дзён. Сам Алег Бортнікаў спадзяецца, што гэта адбудзецца да 1 лютага. У адваротным выпадку прадстаўнікі прадпрымальніцкіх колаў з усіх рэгіёнаў рэспублікі збяруцца зноў для выпрацоўкі далейшых дзеянняў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

*Падрабязнасці*

# «ГАЛОЎНЫ» КІКБАКСЁР МАГІЛЁВА АРЫШТАВАНЫ

**Сродкі масавай інфармацыі ўжо паведамлялі, што праваахоўнымі органамі затрыманы старшыня магілёўскай Федэрацыі кікбоксінга па падазрэнню, груба кажучы, у рэкеце.**

Прозвішча старшыні магілёўскай Федэрацыі кікбоксінга выплыла на паверхню пасля таго, як быў арыштаваны былы кіраўнік вядомага «Рассвета» Васіль Старавойтаў. Апошні не аднойчы фінансаваў спартыўныя мерапрыемствы па кікбоксінгу, і, па сведчаннях некаторых, быў са старшынёй федэрацыі «на сяброўскай назе».

Дарэчы, як стала вядома карэспандэнту «Звязды» з дакладна інфармаванай крыніцы, старшыня Федэрацыі не меў у спартыўным плане да гэтага віда спорта ніякага дачынення — ён не займаўся кікбоксінгам і не працаваў трэнерам. Сама ж магілёўская Федэрацыя была самастойнай арганізацыяй і нават не ўваходзіла ў структуру рэспубліканскай Федэрацыі.

Пакуль што ідзе следства, і не ўсе дэталі вядомы. Аднак мы будзем сачыць за разгортваннем гэтай гісторыі і, вядома ж, інфармаваць нашых чытачоў.

**Алесь СІВЫ.**

# АШМЯНСКІ СУД ПРЫГАВАРЫЎ ШАРАМЕТА І ЗАВАДСКАГА ЎМОЎНА

**28 студзеня ў Ашмянскім раённым судзе пад старшынствам Віталя Казакевіча закончыўся разгляд справы па абвінавачанню Паўла Шарамета і Зміцера Завадскага ў незаконным пераходзе Дзяржаўнай мяжы Беларусі.**

Суд прызнаў абодвух падсудных вінаватымі ў незаконным пераходзе Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь групай асоб па папярэдняй змове паўторна (артыкул 80 частка 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). Улічваючы асабістыя якасці падсудных, тое, што яны раней несудзімыя і маюць на ўтрыманні дзяцей, суд вырашыў вынесці ім умоўнае пакаранне, не звязанае з утрыманнем пад вартай. Павел Шарамет прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі, а Зміцер Завадскі — да паўтара ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам у адзін год. Яны застаюцца пад падпіскай аб нявыездзе. І калі на працягу года ў іх не будзе ніякіх правапарушэнняў, у тым ліку адміністрацыйных, то судзімасць з іх будзе знята. Суд вырашыў не звяртацца да палажэнняў Крымінальнага кодэкса, якія дазваляюць ажыццяўляць канфіскацыю маёмасці ў асуджаных. Суд апраўдаў Паўла Шарамета па артыкулу 167 (злоўжыванне службовым становішчам), які яму інкрымініраваўся, паколькі гэта не было даказана ў судзе.

Павел Шарамет зазначыў, што ён і яго адвакат будуць абскарджваць гэтае рашэнне.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
*г. Ашмяны.*

# Семінар з амерыканцамі па праблемах раззбраення

Ён прайшоў днямі ў Міністэрстве замежных спраў. Яго ініцыятарамі выступіла Беларусь. Ідэю падтрымаў універсітэт штата Джорджыя, амерыканскі Саюз юрыстаў за бяспеку ў свеце.

У Мінск прыехалі з ЗША вядомыя эксперты ў галіне раззбраення і кантролю над узбраеннямі. Напрыклад, былы пасол ЗША пры міжнародных арганізацыях у Вене Майкл Ньюлін і інш.

**Леанід ТУГАРЫН.**

**Наўрад ці будзе перабольшаннем сцвярджэнне, што апошнім часам дзейнасць прафсаюзаў апынулася ў цэнтры грамадскай увагі — дастаткова ўзгадаць хаця б вядомы прэзідэнцкі ўказ аб узаемадзеянні органаў дзяржаўнага кіравання і прафесіянальных саюзаў, падпісанне Генеральнага пагаднення, ці нацыянальную Канферэнцыю па праблемах прафсаюзнага руху ў Беларусі. Аднак што ўяўляюць сабой прафсаюзы зараз і што яны робяць або павінны рабіць, каб абараніць чалавека працы? Днямі па «прамой лініі» на гэтыя і іншыя тэмы з чытачамі «Звязды» гутарыў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Іванавіч ГАНЧАРЫК. Трэба сказаць адразу, што гутарка гэта аказалася даволі вострай. Але аб усім, як кажуць, па парадку.**

# ФЕДЭРАЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ. ДЫЯЛОГ З ЧЫТАЧАМІ «ЗВЯЗДЫ»

**— Ці будзе працаваць мінская водагразелячэбніца?**

***Наталля КАТКОЎСКАЯ, Марыя ІВАНОЎСКАЯ, Барыс ПОЛЕЎ*** *(усяго каля 10 званкоў).*

— Такі унікальны аб'ект, як мінская водагразелячэбніца, працаваць будзе. Разам з тым апошнім часам у Федэрацыю прафсаюзаў сапраўды звяртаюцца людзі і пытаюцца, чаму нельга набыць пуцёўку? Але якраз набыць яе можна. Іншая справа, паколькі летась у прафсаюзаў забралі сацыяльнае страхаванне, кошт гэтай пуцёўкі для простага чалавека павялічыўся адразу да 6,5 млн. рублёў. Лічба для большасці амаль нерэальная, таму не дзіўна, што ў водагразелячэбніцы, якая разлічана на тысячу чалавек, зараз папраўляюць здароўе ўсяго 120. Адсюль і сумненні, ці будзе існаваць водагразелячэбніца.

Але магу паведаміць наступнае: наконт водагразелячэбніцы ў Федэрацыі прафсаюзаў ужо ёсць папярэдняя дамоўленасць з урадам. Калі з'явіцца адпаведная ўрадавая пастанова і ўсё атрымаецца так, як плануецца зараз, то будзе адноўлены ранейшы парадак і пуцёўкі зноў пачнуць для большасці людзей абыходзіцца у 10 працэнтаў ад іх кошту, а для асобных катэгорый грамадзян і ўвогуле бясплатна.

**— Наколькі вядома, зараз рыхтуецца новы Жыллёвы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Як ацэньваюць праект прафсаюзы?**

***Вера Іванаўна ПЛАЎСКАЯ,*** *г. Баранавічы.*

— Праект Жыллёвага кодэкса разглядаўся Саветам Федэрацыі прафсаюзаў. Шэраг паправак, унесеных намі, адобраны камісіяй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па эканамічных пытаннях. Разам з тым адразу кідаецца ў вочы, што ў новым праекце Жыллёвага кодэкса няма ні слова аб удзеле прафсаюзаў у арганізацыі ўліку і размеркавання жылой плошчы на прадпрыемствах, як гэта прадугледжана зараз і што адпавядае Указу Прэзідэнта «Аб мерах па ўдасканаленню ўзаемадзеяння органаў дзяржаўнага кіравання і прафесіянальных саюзаў».

Застаецца хіба што дадаць, што разгляд праекта Жыллёвага кодэкса запланаваны на чарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Пры яго разглядзе Федэрацыя прафсаюзаў будзе настойваць на тым, каб прафсаюзы мелі права прымаць сумесныя рашэнні з адміністрацыяй прадпрыемства па пытаннях уліку і размеркавання жылля.

**— Чаму людзі да 30 гадоў могуць узяць крэдыт на набыццё той жа мэблі пад больш-менш нармальны працэнт, а тыя, хто хаця б на некалькі гадоў перасягнуў гэтую «ўзроставую планку», — ужо не?**

***Аляксандр ВАРАНОВІЧ,*** *г. Мінск.*

— Паводле ранейшага Закона «Аб агульных пачатках дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь», суб'ектамі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі з'яўляліся грамадзяне ва ўзросце да 25 гадоў. Летась Палата прадстаўнікоў падняла гэтую планку да 31 года. Выдзяленне ў першачарговым парадку на набыццё хатняй маёмасці льготных крэдытаў тэрмінам да 3 гадоў з выплатай 10 працэнтаў гадавых за карыстанне імі прадугледжана ўказам прэзідэнта № 358 ад 10 верасня 1996 года. Мэта ўказа — паляпшэнне жыллёвых умоў менавіта моладзі, падтрымка маладых сем'яў. Выдаткаванне ж крэдытаў на набыццё рэчаў для астатніх катэгорый грамадзян пакуль што рэгламентуецца іншымі заканадаўчымі актамі.

**— Ці будуць кампенсавацца ўклады насельніцтва па дзяржаўнаму займу 1990 года?**

***Віталь ЁДКА,*** *г. Мінск.*

— На гэтыя мэты закладзены сродкі ў рэспубліканскім бюджэце, аднак кампенсацыя не прадугледжвае поўнага пакрыцця нанесенага грамадзянам ўрону. Пазіцыя Федэрацыі прафсаюзаў на гэты конт адназначная: вяртанню падлягаюць перададзеныя дзяржаве сумы ў поўным аб'ёме.

**— Нядаўна адбылася сустрэча прадстаўнікоў Федэрацыі прафсаюзаў са старшынёй Дзяржаўнага падатковага камітэта Рэспублікі Беларусь. Аб чым ішла гаворка?**

***Віталь ЯРОМЕНКА,*** *г. Бабруйск.*

— У першую чаргу гаворка ішла пра вызваленне ад падаходнага падатку сум матэрыяльнай дапамогі, якая аказваецца паводле калектыўных дамоў (пагадненняў) асобам, што пацярпелі на вытворчасці, а таксама сем'ям загінуўшых на вытворчасці. Па гэтым пытанні прыйшлі да адзінай думкі — хадайнічаць перад Саветам Міністраў аб прыняцці пастановы з удакладненнем пераліку надзвычайных сітуацый, да якіх павінны быць аднесены выпадкі нанясення ўрону здароўю або смерці работніка на вытворчасці. Што да кампенсацыйных выплат (рэгрэсных іскаў) звыш усталяваных дзяржавай па нормах, то тут неабходна ўносіць змены ў Закон «Аб падаходным падатку» ў частцы рэгламентацыі паняцця «кампенсацыйныя выплаты», аб чым таксама дасягнута дамоўленасць.

Апроч таго разглядалася магчымасць вызвалення ад падаходнага падатку сум выходной дапамогі, якая выдаецца пры звальненні работніка ў сувязі з выхадам на пенсію па ўзросту, а таксама магчымасць прадастаўлення льгот па выплаце падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць прадпрыемствам, якія выкарыстоўваюць працу інвалідаў, калі колькасць інвалідаў на іх не менш за 50 працэнтаў сярэдняспісачнай колькасці прамыслова-вытворчага персаналу. Абмяркоўваліся пытанні аб зборах на сацыяльнае страхаванне, некаторыя пытанні праекта Падатковага кодэкса.

**— Як вы лічыце, ці з'яўляецца падаткаабкладанне зыходзячы з сукупнага гадавога даходу справядлівым?**

***Марыя САВЕЛАВА,*** *г. Мінск.*

— Практыка запаўнення дэкларацый





і падаткаабкладання зыходзячы з сукупнага гадавога даходу паспяхова ўжываецца ў многіх краінах свету. Аднак мы мяркуем, што пакуль уводзіць гэты парадак у Беларусі яшчэ рана. Зараз у большасці насельніцтва такія заробкі, што ўтрымліваць з іх вялікі падатак не зусім справядліва. Таму ў бліжэйшыя дні Федэрацыя прафсаюзаў будзе звяртацца да прэзідэнта рэспублікі з адпаведнай запіскай з тым, каб адкласці падаткаабкладанне зыходзячы з сукупнага гадавога даходу.

**— Чаму дагэтуль не адноўленыя на працы звольненыя яшчэ ў 1995 годзе работнікі Мінскага метрапалітэна? Дзе прафсаюзы?**

***Алена КАНДРАШЭВІЧ,*** *г. Мінск.*

— У абарону 25 работнікаў метрапалітэна, звольненых за ўдзел у забастоўцы, Савет Федэрацыі прафсаюзаў у 1995 годзе прад'явіў іскі ў суд Маскоўскага раёна Мінска аб аднаўленні іх на працы. 4 нашы іскі былі задаволены, а 21 чалавеку ў аднаўленні на працы было адмоўлена, бо іх удзел у забастоўцы суд прызнаў незаконным. Гэта рашэнне раённага суда было абскарджана намі ў Мінскім гарадскім судзе, аднак суд горада Мінска пакінуў рашэнне суда Маскоўскага раёна без змен, а нашы касацыйныя скаргі — без задавальнення.

Трэба хіба што нагадаць, што ўсім звольненым з працы работнікам метрапалітэна Савет Федэрацыі прафсаюзаў неаднаразова аказваў матэрыяльную дапамогу.

**— Чаму ў прафсаюзы могуць уваходзіць кіраўнікі прадпрыемстваў? Здаецца, гэта не зусім лагічна...**

***Мікалай ПЯТРОЎСКІ,*** *г. Мінск.*

— Сапраўды, у міжнароднай практыцы атрымала распаўсюджанне правіла немагчымасці членства наймальніка (работадаўцы) у прафсаюзе, створаным наёмнымі рабочымі. Гэта тлумачыцца тым, што наймальнікі (работадаўцы) маюць свае аб'яднанні.

Аднак не варта забывацца на спецыфіку Беларусі. Справа ў тым, што пераважная большасць наймальнікаў у нас з'яўляюцца не ўласнікамі тых жа прадпрыемстваў, а па сутнасці таксама наёмнымі работнікамі. Таму амаль усімі статутамі прафесіянальных саюзаў, якія ўваходзяць у ФПБ, вызначана, што ўсе грамадзяне без якіх-небудзь абмежаванняў маюць права на ўступленне ў прафсаюз. Разам з тым у некаторых прафсаюзах такія абмежаванні ёсць. Напрыклад, у статуце Беларускага прафесіянальнага саюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання прадугледжана, што пры пераходзе члена прафсаюза на пасаду, якая ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам ажыццяўляе функцыю наймальніка на прадпрыемствах любой формы ўласнасці, яго членства ў прафсаюзе прыпыняецца па рашэнню пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі.

**— Ці атрымаюць прадугледжаную ўказам прэзідэнта датацыю ў памеры 500 тыс. рублёў работнікі дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ сістэмы прафсаюзаў? Ці будуць датацыі ДЮСШ сёлета?**

***Людміла ХУРСЕВІЧ,*** *г. Мінск.*

— Нагадаю: сацыяльная даплата работнікам ДЮСШ робіцца згодна з указам прэзідэнта ад 30 верасня 1997 года «Аб мерах сацыяльнай падтрымкі работнікаў устаноў адукацыі, якія ўтрымліваюцца за кошт бюджэту». У адпаведнасці з пагадненнем паміж Федэрацыяй прафсаюзаў і ўрадам ад 7 лютага 1997 года дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы фінансаваліся са сродкаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва. Аднак на наш зварот у фонд аб выплаце сацыяльнай даплаты станоўчага адказу мы не атрымалі. Каб вырашыць гэта пытанне, зараз Федэрацыя прафсаюзаў звярнулася ў Савет Міністраў.

**— Якія змены ў аплаце працы і прэміраванні чакаюць работнікаў бюджэтнай сферы, і ў прыватнасці настаўнікаў?**

***Вольга СЯМЁНАВА,*** *г. Мінск.*

— Са студзеня 1998 года мяркуецца павысіць на 1 разрад Адзінай тарыфнай сеткі зарплату кіраўнікам і асобным катэгорыям работнікаў, на 2 разрады — загадчыкам дашкольным устаноў.

У сувязі з няпоўным выкананнем прэзідэнцкага ўказа № 494 па некаторых катэгорыях (спецыялістах з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй) Міністэрствам адукацыі і Рэспубліканскім камітэтам прафсаюза работнікаў адукацыі падрыхтаваны пэўныя рэкамендацыі па матэрыяльнаму стымуляванню і прэміраванню. Паводле гэтых рэкамендацый прэміраванне праводзіцца толькі па сумеснаму рашэнню кіраўніка і прафкома. Прафсаюзныя камітэты валодаюць дастатковымі паўнамоцтвамі, каб у дадзеным выпадку не дапусціць несправядлівасці.

Пытанні прэміравання рэгулююцца спецыяльнымі дадаткамі да калектыўных дагавораў. Застаецца дадаць, што ўрадам устаноўлена выплата 10 працэнтаў па прэміраванню і 10 працэнтаў надбаўкі за высокія дасягненні ў працы.

**— Чаму ў Заводскім раёне сталіцы дзіцячыя сады працуюць 10,5 гадзіны, у той час як у астатніх раёнах горада — 12 гадзін?**

***Жыхарка Мінска.***

— Паводле рашэння Мінгарвыканкама ад 27 сакавіка 1997 года, у кожным адміністрацыйным раёне горада вызначаны свой рэжым работы дашкольных устаноў. Дашкольныя ўстановы Заводскага раённага аддзела адукацыі перайшлі на 10,5-гадзінны рэжым работы ў адпаведнасці з рашэннем выканкама Заводскага раёна № 91-а ад 25 ліпеня 1995г. З улікам вынікаў апытання бацькоў, для тых, каму патрэбна 12-гадзіннае знаходжанне дзяцей у кожнай дашкольнай установе, могуць быць створаны садавыя групы з рэжымам работы з 7 да 19 гадзін.



**— 6 гадоў працавала ў выбарчай камісіі і на партыйнай рабоце. З 1985 г. — настаўніца школы. На падставе пастановы Савета Міністраў стаж працы ў партыйных і савецкіх органах не ўваходзіць у педагагічны стаж. Аднак у той жа час гэты стаж захоўваецца чыноўніку дзяржапарату. Чаму такія розныя падыходы?**

***Людміла НІСЦЮК,*** *г. п. Узда.*

— Педагагічны стаж працы — гэта, як вы самі разумееце, спецыяльны стаж, і ў яго залічваецца толькі праца па спецыяльнасці.

Што ж датычыцца статусу служачых дзяржаўнага апарату, то ў адпаведнасці з Законам «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце» ў стаж службы ў дзяржаўным апараце залічваецца работа на прафесіянальнай аснове ў апараце Кампартыі Беларусі раённага, гарадскога, абласнога і рэспубліканскага ўзроўню да 28 ліпеня 1990 года асобам, якія на момант увядзення ў дзеянне гэтага закона (1 сакавіка 1994 года) з'яўляліся служачымі дзяржаўнага апарату, а таксама работа інспектараў працы, якія да 30 верасня 1993 года працавалі ў сістэме прафесіянальных саюзаў і якія на 1 сакавіка 1994 года з'яўляліся служачымі дзяржаўнага апарату.

**— У студзені-лютым 1997 года працаваў вартаўніком у ветэрынарным тэхнікуме. Потым адбыўся падзел веттэхнікума на сельскагаспадарчы тэхнікум і саўгас. Аднак у выніку атрымалася так, што мне дагэтуль не выплацілі грошы за два месяцы працы. Хто ўрэшце (тэхнікум ці саўгас) павінен са мной разлічыцца? Куды мне звяртацца?**

***Арсенцій СТАЛЯРОЎ, пенсіянер,*** *г. Рэчыца.*

— Калі вы сапраўды былі прыняты на працу і ў студзені-лютым 1997 года працавалі вартаўніком у ветэрынарным тэхнікуме, то ў адпаведнасці са штатным раскладам пры звальненні з вамі абавязаны былі поўнасцю разлічыцца. Калі гэтага не было зроблена, то ў дачыненні да вас адбылося грубае парушэнне артыкула 98 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь. У такім выпадку па пытаннях аплаты я параіў бы звярнуцца у Рэчыцкі райкам прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу — там дапамогуць разабрацца. Дарэчы, лічыце, што мы ўжо накіравалі туды ваша пытанне.

**— Ці правільна робяць кіраўнікі прадпрыемстваў, калі імкнуцца звольніць пенсіянераў? Хіба гэта мера барацьбы з беспрацоўем?**

***Уладзімір БАБІН,*** *г. Мазыр.*

— У адпаведнасці з Канстытуцыяй грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу, і гэта права не абмяжоўваецца якімі-небудзь узроставымі межамі. Таму дзеючае заканадаўства не прадугледжвае такую падставу для звальнення, як дасягненне работнікам пенсійнага ўзросту. У сувязі з дасягненнем пенсійнага ўзросту звальняцца з працы ніхто не павінен.

Аднак трэба памятаць аб наступным. Паводле Указа прэзідэнта 1 верасня 1995 года № 350 «Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсійнага забеспячэння грамадзян» у рэдакцыі ўказа ад 29 снежня 1995 года № 531 наймальнікам даецца права заключаць кантракты з раней прынятымі работнікамі, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту (мужчыны — 60, жанчыны — 55 гадоў) і якія маюць права на поўную пенсію, а таксама з асобамі, якія не дасягнулі памянёнага ўзросту, але атрымліваюць працоўныя пенсіі (апроч пенсій па інваліднасці, па страце карміцеля і сацыяльных пенсій). Гэта азначае, што наймальнік не абавязаны заключаць кантракты з усімі пенсіянерамі, а толькі мае права ў залежнасці ад патрэбы ў тым ці іншым работніку, які дасягнуў пенсійнага ўзросту, вырашаць пытанне аб тым, заключаць з ім кантракт або пакінуць працаваць на тых умовах, на якіх ён прымаўся на працу. Такім жа чынам вырашаецца пытанне пры прыёме пенсіянера на працу: па меркаванню наймальніка з ім можа заключацца, а можа і не заключацца кантракт.

Аб будучым заключэнні кантракта працуючаму пенсіянеру павінны паведаміць не пазней чым за месяц. Кантракт, па дамоўленасці бакоў, можа заключацца на тэрмін ад 4 месяцаў да 2 гадоў. Пры адмове работніка, які атрымлівае пенсію, заключыць кантракт працоўная дамова спыняецца на падставе 29 артыкула Кодэкса законаў аб працы.

**— Ходзяць чуткі, што будзе ліквідавана льготная пенсія за шкодныя ўмовы працы...**

***Сяргей ЗЯНЬКО,*** *г. Мінск.*

— Скажу адразу, што ні аб якіх «ільготных пенсіях» гаворкі быць не можа ўвогуле. Гэта менавіта пенсіі за працу ў асаблівых, шкодных для здароўя ўмовах працы. На жаль, сітуацыя ў галіне пенсійнага забеспячэння за працу з асаблівымі ўмовамі несуцяшальная.

Наступ на пенсійныя правы гэтай катэгорыі работнікаў працягваецца. Як быццам, у кастрычніку 1996 года адну праблему вырашыць удалося. Па настойліваму патрабаванню Федэрацыі прафсаюзаў Кабінет Міністраў змяніў сваю пастанову ад 2 жніўня 1995 года № 408, якая абмяжоўвала дзеянне саюзных спісаў №№ 1, 2 і давала магчымасць адмаўляць у прызначэнні пенсіі асобам, што працавалі ў неспрыяльных умовах. Аднак у 1997 годзе з'яўляецца Канцэпцыя рэфарміравання сістэмы пенсійнага забеспячэння, распрацаваная Міністэрствам сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь. Па сутнасці, зараз прапаноўваецца ліквідаваць дзяржаўныя гарантыі права на пенсію за працу з асаблівымі ўмовамі. Прадугледжваецца ажыццяўляць пенсійнае забеспячэнне работнікаў, занятых у асаблівых умовах працы, на падставе галіновых тарыфных пагадненняў або калектыўных дамоў праз недзяржаўныя кампаніі ці фонды. Да чаго гэта можа прывесці, тлумачыць не трэба. Таму магу вас запэўніць: Федэрацыя прафсаюзаў ужо вызначыла свае дзеянні па сацыяльнай абароне правоў работнікаў, занятых на цяжкіх работах, у шкодных і небяспечных умовах працы.

**— Чула, што ў Беларусі праводзіцца фестываль народных выканаўцаў. Што гэта за фестываль і ці будуць удзельнічаць у ім прафсаюзныя Дамы культуры?**

***Галіна ЯТКОЎСКАЯ, дырэктар ДК «Керамін»,*** *г. Мінск.*

— Сапраўды, за апошнія дзесяць гадоў у рэспубліцы ўпершыню праводзіцца фестываль народнага мастацтва «Беларусь — мая песня». Фестываль праводзіцца па ініцыятыве Федэрацыі прафсаюзаў і Міністэрства культуры, удзел у ім могуць прымаць творчыя калектывы і індывідуальныя выканаўцы ўсіх жанраў і відаў народнага мастацтва, незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці ўстаноў культуры, пры якіх яны працуюць. Так што жадаем поспехаў на фестывальных конкурсах усім калектывам мастацкай самадзейнасці, у тым ліку і калектыву Дома культуры адкрытага акцыянернага таварыства «Керамін».

**— Ці праўда, што іншагароднім студэнтам, якім не прадастаўлены інтэрнат, належыць нейкая кампенсацыя?**

***Аляксандр БОНДАРАЎ,*** *г. Магілёў.*

— Праўда. Паводле падпісанага напрыканцы снежня Генеральнага пагаднення, іншагароднім студэнтам і навучэнцам у якасці кампенсацыі па найму жылля пры немагчымасці іх пасялення ў інтэрнат робяцца грашовыя выплаты ў памеры 25 працэнтаў ад мінімальнай зарплаты штомесяц. Вядома, сума зусім невялікая, але мяркую, што з паляпшэннем агульнага становішча ў краіне яна будзе павялічвацца.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ДЗЯРЖСТАН
# на
# інтарэса
# дакладн




• Самы дакладны «гадзіннік», па якому звярае час уся рэспубліка.



• Дазорца эталона беларускага часу Мікалай ЧАБЯРУК.

***Сёння не выклікае сумненняў неабходнасць большай інтэграцыі беларускай эканомікі ў сусветную, неабходнасць істотнага павышэння надзейнасці і канкурэнтаздольнасці айчыннай прадукцыі, якую цяпер строга экзаменуе сусветны рынак. Важная роля ў выкананні гэтых задач належыць стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі прадукцыі.***

***У Дзяржаўным камітэце па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі (Дзяржстандарце), які непасрэдна і займаецца ўказанымі пытаннямі, зазначаюць: «Без захавання стандартаў, без дакладнасці вымярэнняў — няма якасці».***



• Старшыня Дзяржстандарта Валерый КАРАШКОЎ.

***Аб накірунках дзейнасці, функцыях Дзяржстандарта, якія аднолькава важныя па значнасці, можна меркаваць ужо па яго поўнай назве. Але, відаць, найперш трэба адзначыць яго наступную функцыю: Дзяржстандарт з'яўляецца трымальнікам і дазорцам ўсіх правілаў і ўмоў (інакш — стандартаў), згодна з якімі павінны выпускацца ўсе віды прадукцыі без выключэння — пачынаючы ад цвіка і заканчваючы камп'ютэрам. Свае правілы і ўмовы, або свой стандарт — на кожны від прадукцыі асобна. Гэтыя правілы і ўмовы, дакладна распісаныя, замацаваныя ў адпаведных дакументах, закладваюць, вызначаюць пэўны***

*У сістэму Дзяржстандарта Беларусі ўваходзяць 16 цэнтраў стандартызацыі і метралогіі, якія знаходзяцца ў Мінску, а таксама абласных і прамыслова развітых гарадах рэспублікі, Беларускі дзяржаўны інстытут стандартызацыі і сертыфікацыі, выпрабавальны цэнтр вырабаў лёгкай прамысловасці.*

***АСНОЎНЫМІ ЗАДАЧАМІ ДЗЯРЖСТАНДАРТА З'ЯЎЛЯЮЦЦА:***

*— стварэнне і забеспячэнне функцыянавання нацыянальных сістэм стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі;*

*— правядзенне адзінай тэхнічнай палітыкі і ажыццяўленне кіраўніцтва стандартызацыяй, метралогіяй і сертыфікацыяй у рэспубліцы;*

*— арганізацыя і метадычнае кіраўніцтва распрацоўкай нацыянальных стандартаў і іх зацвярджэнне;*

*— забеспячэнне адзінства вымярэнняў, стварэнне, вядзенне і захаванне нацыянальных эталонаў адзінак фізічных велічынь;*

*— арганізацыя і метадычнае забеспячэнне работ па сертыфікацыі прадукцыі, работ і паслуг і сістэм якасці, акрэдытацыя органаў сертыфікацыі і выпрабавальных лабараторый;*

*— забеспячэнне дзяржаўнага нагляду за захаваннем патрабаванняў стандартаў і тэхнічных умоў, метралагічных нормаў і правілаў, а таксама дзяржаўнага нагляду за вымярэннямі радыеактыўнага забруджвання прыроднага асяроддзя і ўсіх відаў сыравіны і прадукцыі.*

**— НАЙПЕРШ, калі ласка, давайце яшчэ раз удакладнім, якія мэты мае на ўвазе стандартызацыя?**

— Стандартызацыя мае на ўвазе правядзенне пэўнай узаемаўзгодненай тэхнічнай палітыкі, якая на карысць як вытворцам, так і спажыўцам; стандартызацыя дазваляе ўсім вытворцам або асобнай групе іх (у залежнасці ад таго, якія стандарты выкарыстоўваюцца: міждзяржаўныя, дзяржаўныя, стандарты прадпрыемства), калі можна так сказаць, размаўляць на адной тэхнічнай мове. І гэта ў агульных інтарэсах, інтарэсах тэхнічнага прагрэсу.

Тое, што рэгламентуецца стандартамі, найперш датычыць бяспекі чалавека — стандарт на любы від прадукцыі дакладна вызначае межы гэтай бяспекі. Напрыклад, калі гэта дзіцячая цацка, то ў ёй, у матэрыяле, з якога яна выраблена, павінны быць абсалютна выключаны шкодныя рэчывы (цацка ж, як вядома, можа трапіць і ў рот). Пры вытворчасці цацкі органы Дзяржстандарта, нашы эксперты абавязкова праверацъ яе на шкоднасць, прычым правядуць дэталёвы хіміка-лабараторны аналіз.

Другое абавязковае патрабаванне да таго ці іншага віду прадукцыі, якое закладваецца ў адпаведным стандарце, — яе сумяшчальнасць і ўзаемазамяняльнасць. Напрыклад, адначасова працуючыя побач тэлевізар і халадзільнік не павінны шкодна ўздзейнічаць адзін на аднаго сваімі электрамагнітнымі выпраменьваннямі, што можа выяўляцца ў скажэнні карцінкі на экране або іншых перашкодах, а калі яны ўсё ж уздзейнічаюць — значыць, нехта з вытворцаў (тэлевізара ці халадзільніка) парушыў пэўнае патрабаванне стандарта. А ў першую чаргу сумяшчальнасць мае на ўвазе магчымасць сучлянення дадзенага віду прадукцыі з іншымі, напрыклад, магчымасць падключэння да камп'ютэра розных прыставак або падключэння гэтага камп'ютэра да камп'ютэрнай сеткі і г. д. Усё гэта было б немагчыма менавіта без выканання вытворцамі прадукцыі пэўных тэхнічных патрабаванняў і параметраў. Дарэчы, не ўсе патрабаванні абавязковыя. Абавязковыя з іх толькі тыя, якія датычаць бяспекі чалавека. Тэарэтычна вытворца можа выпусціць і такую прадукцыю, якая, напрыклад, не будзе суадносіцца з іншай. Але як потым такую прадукцыю прадаць, хто яе возьме? Захаванне стандартаў у інтарэсах саміх жа вытворцаў, якія, вядома ж, зацікаўленыя ў тым, каб не страціць рынкаў збыту; стандартызацыя вядзе да эканоміі сродкаў.

**— Ці не звужае яна, разам з тым, творчыя магчымасці вытворцаў? Ці не шкодзіць большай разнастайнасці таварнага рынку?**

— Стандарт для распрацоўшчыка вырабу, для канструктара — не перашкода. Возьмем дыктафон. Калі ў ім гнёзды пад касету і пад штэкеры і павінны адпавядаць пэўным параметрам, дзе б гэты дыктафон ні быў выпушчаны, то электронная начынка, знешняе афармленне з'яўляюцца ўжо «ноу-хау» канструктара. Прычым і сам стандарт не знаходзіцца ў нейкай застылай форме, а пастаянна актуалізуецца — у адпаведнасці з найноўшымі дасягненнямі ў вытворчасці пэўнага вырабу. У стандарты пастаянна ўносяцца змяненні, якія выдаюцца Дзяржстандартам у спецыяльных зборніках і, адпаведна, распаўсюджваюцца; кожны стандарт раз у 5 гадоў у абавязковым парадку праходзіць праверку на адпаведнасць сучасным патрабаванням.

Дзяржстандарт, як зразумела ўжо, непасрэдна сам не распрацоўвае стандарты (распрацоўваюць вытворцы), а збірае іх, аналізуе, сістэматызуе і захоўвае, а таксама распаўсюджвае (па іх штодзённа звяртаюцца дзесяткі прадпрыемстваў). І, вядома ж, зацвярджае стандарты. А таксама строга кантралюе іх няўхільнае захаванне пры вытворчасці прадукцыі суб'ектамі гаспадарання. Гэта, у прыватнасці, робіць наглядная служба Дзяржстандарта.

***ДЗЯРЖСТАНДАРТ** на ахове інтарэсаў спажыўца: вынікі дзяржнагляду за мінулы год*

**Па выніках праверак за мінулы год (праверана 8110 найменняў прадукцыі) выяўлена рэалізацыя спажыўцам і заказчыкам прадукцыі, якая не адпавядала вызначаным патрабаванням, на суму звыш 64,4 мільярда рублёў. За парушэнні гэтых патрабаванняў да суб'ектаў гаспадарання прыменены штрафныя санкцыі ў памеры 23,6 мільярда рублёў, выдадзена 3685 прадпісанняў аб забароне рэалізацыі пэўных партый прадукцыі, у 944 выпадках забаранялася рэалізацыя ўсёй прадукцыі.**

**Найбольш буйныя сумы штрафаў атрымалі ПКП «Лен-Рам» — за рэалізацыю піва «Домашнее», якое не адпавядала патрабаванням стандарта (СТБ 395-93) па закладзенай долі спірту і сухіх рэчываў (канцэнтрацыя апошніх характарызуе шчыльнасць піва), а таксама мела павышаную кіслотнасць; мясакамбінат аддзела рабочага забеспячэння Беларускай чыгункі — за рэалізацыю насуперак ранейшай забароне нестандартных каўбасных вырабаў; АП «Універсалрамбуд» — за рэалізацыю нестандартных аконных блокаў і інш.**

**— Напэўна, побач са стандартызацыяй ідзе сертыфікацыя...**

— Сертыфікацыя прадукцыі ўведзена ў рэспубліцы адносна нядаўна — у 1993 годзе. Што яна азначае? У так званым сертыфікаце адпаведнасці, за якім звяртаюцца суб'екты, спецыяльна пацвярджаецца, што пэўная прадукцыя цалкам адпавядае патрабаванням стандартаў (вядома, перад гэтым сертыфікацыйны орган праводзіць выпрабаванні, даследаванні дадзенай прадукцыі і ўжо потым выдае сертыфікат). Сертыфікацыя адпавядае міжнароднай практыцы, ажыццяўляецца цалкам у інтарэсах спажыўцоў, праводзяць яе акрэдытаваныя органы і лабараторыі (акрэдытуе іх Дзяржстандарт). Сертыфікуецца не ўся прадукцыя, а толькі пэўныя яе віды, якія могуць прынесці шкоду здароўю чалавека. Гэта ў першую чаргу харчовая прадукцыя, а таксама дзіцячыя цацкі, вырабы лёгкай прамысловасці, якія кантактуюць з целам чалавека, складаная бытавая тэхніка. Пры гэтым сертыфікацыі падлягае як імпартная прадукцыя, так і айчынная.

Для дзейнасці гандлёвых арганізацый, прадпрымальнікаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі партнёрамі, важнае значэнне мае ўзаемнае прызнанне сертыфікатаў — паміж нашай краінай і іншымі краінамі. Адпаведныя пагадненні існуюць з усімі краінамі СНД, у тым ліку з Расіяй, Украінай, а таксама Польшчай, Кітаем, Турцыяй, Румыніяй, Латвіяй, Літвой і іншымі. Гэта не азначае, што завозімую прадукцыю можна прадаваць, маючы на руках толькі замежны сертыфікат — ён абавязкова пацвярджаецца беларускім сертыфікатам. У дадзеным выпадку (пры пацвярджэнні замежнага сертыфікату) сама працэдура выдачы айчыннага сертыфікату значна спрашчаецца, г. зн. не праводзяцца адпаведныя выпрабаванні прадукцыі, сам сертыфікат значна менш каштуе. Тут жа варта зазначыць наступны факт, які можа быць карысны для вытворцаў. Дзяржстандарт Беларусі атрымаў ад Дзяржстандарта Расіі права выдаваць расійскія сертыфікаты на беларускую прадукцыю.

Практычная патрэбнасць узаемнага прызнання вынікаў выпрабаванняў прадукцыі і сертыфікацыі прывяла да неабходнасці гарманізацыі нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі з еўрапейскай. Адпаведна, у аснову нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі закладзены еўрапейскія нормы і патрабаванні.

Нацыянальная сістэма сертыфікацыі па строгасці гэтых нормаў і правілаў не ўступае такім жа сістэмам у іншых краінах і атрымала ў цэлым прызнанне за мяжой. Шэраг нашых лабараторый і органаў, якія выконваюць сертыфікацыю, праходзяць цяпер акрэдытацыю ў міжнародных сістэмах, а таксама нацыянальных сістэмах іншых краін. У выніку сертыфікаты, выдадзеныя гэтымі органамі, будуць прызнавацца і за мяжой. У цэлым гэта павышае давер замежнага спажыўца да нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі, садзейнічае развіццю дзелавых кантактаў з замежнымі партнёрамі і прасоўванню айчыннай прадукцыі на рынкі заходніх краін.

І яшчэ такі факт, які сведчыць аб неблагой кампетэнтнасці айчынных лабараторый і органаў па сертыфікацыі: нядаўна Віцебскі цэнтр Дзяржстандарта ўдзельнічаў у міжнародных так званых міжлабараторных зверках, якія сабралі 49 лабараторый з розных краін. Сутнасць гэтых зверак заключалася ў наступным: усе лабараторыі правodзілі ананімныя (дзеля захавання поўнай аб'ектыўнасці) даследаванні харчовай прадукцыі. Поўнасцю вытрымалі гэты экзамен на якасць і дакладнасць выпрабаванняў толькі 22 лабараторыі, сярод іх і лабараторыя з Віцебска. Цяпер да падобнага экзамена рыхтуецца яшчэ некалькі айчынных лабараторый, якія займаюцца сертыфікацыяй прадукцыі.

***СЕРТЫФІКАЦЫЯ ПРАДУКЦЫІ*** **прынесла свае станоўчыя вынікі — яна па сутнасці спыніла тую навалу недабраякаснай прадукцыі, якая накацілася на рэспубліку пасля атрымання суб'ектамі большай эканамічнай свабоды (вядома, размова ідзе аб легальнай прадукцыі, а не аб той, якая завозіцца або вырабляецца падпольна ў нас, і рэалізуецца «падпольна» ж). Летась толькі ў Мінску было адмоўлена суб'ектам у выдачы сертыфікатаў у 49 выпадках, а ў рэспубліцы — у 650 выпадках.**

**Сертыфікацыя прадукцыі, якую, як зразумела ўжо, праводзіць незалежны бок, акрамя спынення патоку недабраякаснай прадукцыі з-за мяжы, у цэлым падцягнула і айчынных вытворцаў.**



• Ідуць выпрабаванні харчовай прадукцыі.

# НДАРТ БЕЛАРУСІ: абароне аў спажыўцоў, насці і якасці



● Дырэктар Цэнтра эталонаў, стандартызацыі і метралогіі Мікалай ЖАГОРА і першы намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага інстытута стандартызацыі і сертыфікацыі Іван ВАРАБЕЙ.

***мінімум абавязковых патрабаванняў да таго ці іншага віду прадукцыі (адносна яе ўласцівасцяў і якасцяў), адступіць ад якіх вытворцы не маюць права. Кожны, хто наладжвае выпуск той ці іншай прадукцыі, павінен спачатку менавіта зверыцца са стандартам. Як зазначаюць у Дзяржкамітэце, лепей, вышэй за той узровень, які закладзены ў стандарце, прадукт можна вырабіць, ніжэй — ніяк нельга.***

***Больш дэталёва аб функцыях і рабоце Дзяржстандарта расказалі карэспандэнту «Звязды» яго старшыня Валерый Карашкоў і дырэктар Цэнтра эталонаў, стандартызацыі і метралогіі Мікалай Жагора.***

**— І тым не менш, да спажыўца яшчэ нямала трапляе недабраякаснай ды нестандартнай прадукцыі, ці не так?**

— Патрабаванні ў рэспубліцы да вытворцаў з боку органаў Дзяржстандарта заўсёды былі і застаюцца жорсткімі. Але, відаць, адных патрабаванняў недастаткова. У нас яшчэ нестае сапраўднай канкурэнцыі паміж вытворцамі, добра насычанага рынку. Так, у развітых заходніх краінах ніхто не прымушае вытворцаў захоўваць стандарты, тым не менш, вытворцы не ігнаруюць іх. І робяць гэта па самай простай прычыне — баяцца страціць спажыўца, страціць сваё месца на рынку. У многіх заходніх краінах таксама моцна кантралююць таварны рынак таварыствы спажыўцоў. Яны пры гэтым маюць грунтоўную матэрыяльна-тэхнічную базу, г. зн. свае, незалежныя ні ад кога выпрабавальныя лабараторыі з адпаведным абсталяваннем, у якіх ажыццяўляюць незалежную ацэнку якасці прадукцыі. Наша, айчыннае таварыства спажыўцоў, якое, дарэчы, стваралася з непасрэдным удзелам Дзяржстандарта, не мае гэткай базы, праўда, яно можа выкарыстоўваць базу Дзяржстандарта, Міністэрства аховы здароўя. А ў прыватнасці, яно нямала робіць у плане выхавання прававой культуры спажыўцоў. На жаль, мы як грамадзяне, як спажыўцы вельмі дрэнна ведаем свае правы і яшчэ горш умеем імі карыстацца.

Такім чынам, пакуль што органам Дзяржстандарта даводзіцца быць пільнымі. І асабліва ў адносінах да новых вытворцаў, якіх апошнім часам з'явілася нямала і якія могуць пачаць выпускаць прадукцыю, нават не маючы стандарта або не зарэгістраваўшы яго. Менавіта гэты сегмент рынку з яго невялікімі вытворчасцямі больш за ўсё дае і браку, і адхіленняў ад стандартаў.

**— У кастрычніку мінулага года ў Мінску на базе Дзяржстандарта прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Метралогія-97». Гэты факт можна расцэньваць як прызнанне за Беларуссю пэўных заслуг у галіне метралогіі? Увогуле, што ў сябе уключае дзейнасць Дзяржстандарта ў гэтай галіне?**

— Метралогія, або забеспячэнне адзінства вымярэнняў, а таксама стварэнне айчынных эталонаў фізічных велічыняў — гэта яшчэ адзін з важных напрамкаў дзейнасці Дзяржстандарта. Прычым на сённяшні дзень асабліва важная работа над эталонамі — у сувязі з тым, што, па сутнасці, уся эталонная база засталася ў Расіі, а на эталонах грунтуецца ўся дакладнасць вымярэнняў і вымяральных прыбораў. Што ўяўляе сабой эталон той ці іншай фізічнай велічыні — масы, даўжыні, часу, частаты, тэмпературы, сілы току і г. д.? Гэта магчымасць узнаўлення — у любы момант і з самай мінімальнай пагрэшнасцю — адзінкі вымярэння таго ж часу, тэмпературы і да т. п. Так, у Дзяржстандарце нядаўна «прапісаны» наш айчынны эталон часу і частаты, які выдае дакладны беларускі час — з дакладнасцю 1 секунда магчымага адхілення на працягу 300 гадоў. Гэты талон уяўляе комплекс складанай апаратуры, якая размяшчаецца ў двух пакоях са строга кантралюемымі тэмпературай і вільготнасцю (дарэчы, па гэтаму эталону зவяраюць свае гадзіннікі грамадзяне Беларусі — сігналы дакладнага часу, якія гучаць па радыё, перадаюцца менавіта ад эталона). Зразумела, абсталяванне эталоннай гаспадаркі нямала каштуе, але гэтак жа нятанна і «купіць» адзінкі вымярэнняў — у тых, хто мае адпаведныя эталоны. На сённяшні дзень рэспубліка мае чатыры эталоны, якія атэставаны як дзяржаўныя (гэта азначае, што яны маюць высокую ступень дакладнасці) — эталон часу, які «вырабляе» адзінку часу і вядзе шкалу беларускага часу, або адмярае суткі, месяцы, гады; эталон тэмпературы і два эталоны вымярэнняў напружання пераменнага току. Астатнія эталоны пакуль не носяць рангу дзяржаўных — іх дакладнасць трэба павышаць, што, у прыватнасці, прадугледжвае і спецыяльная дзяржаўная праграма. Увогуле стварэнне асноўных нацыянальных эталонаў мае на ўвазе немалую працу і затраты; да яе прыцягнуты вучоныя Нацыянальнай акадэміі, вядучых ВНУ і НДІ рэспублікі.

Зразумела ўжо, што тэхнічная база сістэмы Дзяржстандарта з'яўляецца асноўнай у рэспубліцы, на ёй праходзяць зверку на дакладнасць многія вымяральныя прыборы прадпрыемстваў і арганізацый, тут робяцца асабліва дакладныя зверкі. Так, штогод на базе нацыянальнага эталона часу і частаты праходзяць метралагічную атэстацыю больш як 3 тысячы сродкаў вымярэнняў. У цэлым у сістэме Дзяржстандарта робіцца ў год больш як 2,5 мільёна так званых паверак вымяральнай тэхнікі і прыбораў.

У Дзяржстандарце таксама праходзяць абавязковыя выпрабаванні ўзоры вымяральнай тэхнікі, якая ствараецца на прадпрыемствах рэспублікі або завозіцца з-за мяжы...



● У інфармацыйным цэнтры Дзяржстандарта.

**— Апошнім часам нямала гаворыцца пра міжнародныя стандарты ІСО серыі 9000 і неабходнасць дасягнення вытворцамі іх патрабаванняў. Гэтыя патрабаванні больш высокія, чым у нас?**

— Справа датычыць стандартаў па арганізацыі вытворчасці (айчынныя стандарты на прадукцыю не менш прынцыповыя, чым замежныя). Стандарты ІСО серыі 9000 не ўстанаўліваюць патрабаванняў да пэўнай, канкрэтнай прадукцыі, а патрабуюць адладжанай сістэмы кіравання якасцю — у цэлым па вытворчасці. Напрыклад, сертыфікаваў сваю сістэму якасці па ІСО-9000 Жлобінскі металургічны камбінат. Гэта значыць, што там задзейнічаны ў працэсе кіравання якасцю выключна ўсе — для кожнага ўсё дакладна распісана, што ён робіць і за што адказвае.

*Дзяржстандарт Беларусі мае разнастайныя інфармацыйныя фонды, у якіх прадстаўлены ўсе айчынныя дзяржаўныя стандарты і тэхнічныя ўмовы, міждзяржаўныя стандарты, прынятыя ў якасці дзяржаўных, нацыянальныя стандарты іншых краін, стандарты міжнародных і рэгіянальных арганізацый і іншыя даведачныя даныя і навукова-тэхнічная літаратура.*

*Наладжаны выпуск штомесячных інфармацыйных бюлетэняў аб новых паступленнях нацыянальных, рэгіянальных і міжнародных дакументаў.*

*У інфармацыйных фондах маюцца электронныя каталогі на кампакт-дысках.*

*Аддзел аўтаматызаваных інфармацыйных фондаў Дзяржстандарта ажыццяўляе інфармацыйнае абслугоўванне на дагаворнай аснове больш як 350 прадпрыемстваў і арганізацый. Інфармацыйныя фонды наведваюць каля 50 прадстаўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый штодзённа.*



● Аператар цэнтра кіравання сувяззю Дзяржстандарта Наталля ШУЛЬГІНА.

У цэлым у Беларусі, сапраўды, неблагая метралагічная школа, якая дасталася нам у спадчыну ад былога Саюза. Апошнім часам пры Дзяржстандарце з тым, каб прыцягнуць грамадскасць да развіцця метралагічнай навукі, створана Акадэмія метралогіі, якая мае два накірункі ў сваёй дзейнасці — метралагічныя даследаванні і падрыхтоўка кадраў, спецыялістаў у галіне метралогіі.

***МЕТРАЛАГІЧНЫЯ ВЫМЯРЭННІ І ВЫПРАБАВАННІ*, а таксама метралагічны нагляд — нябачны ўчастак работы Дзяржстандарта, выгада ад яго не падлічваецца, але, як можна меркаваць, гэта выгада вельмі значная. У выніку тых жа «паверак» (рэгулярных і, як правіла, абавязковых) аднаўляецца першапачатковая дакладнасць вымяральных прыбораў, якія выкарыстоўваюцца на прадпрыемствах у вытворчасці, а значыць папярэджваецца брак прадукцыі.**

Увогуле, стандарты ІСО-9000 па сутнасці нарадзіла наша ранейшая комплексная сістэма кіравання якасцю вытворчасці, або знакамітая па ранейшым часе КСУКП. Толькі мы пра яе забыліся, а на Захадзе ўзялі гэты вопыт на ўзбраенне, удасканалілі яго. Цяпер і мы вымушаны вяртацца да таго багажу, які быў.

Атэставаць менавіта ўсю сістэму кіравання якасцю, залажыць у вытворчасць арганізацыйныя стандарты, прымусіць гэтыя стандарты працаваць — значна цяжэй, чым проста падрыхтаваць стандарт на пэўны від прадукцыі. У нас у рэспубліцы пакуль толькі лічаныя прадпрыемствы ўкаранілі ў сябе арганізацыйныя стандарты ІСО-9000, прайшлі працэдуру сертыфікацыі па гэтых стандартах. Ужо называўся Жлобінскі металургічны камбінат. Гэта таксама «Мілавіца», Баранавіцкі станкабудаўнічы завод. Дзяржстандарт з удзелам іншых ведамстваў рэспублікі ўдзяляе цяпер гэтаму пытанню немалую ўвагу — праводзяцца семінары, вучоба. Дзяржстандарт мае дагаворы з трактарным і падшыпнікавым заводамі на распрацоўку сістэмы якасці. Але варта падкрэсліць: укараніць за некага цэласную сістэму якасці — нельга, кожны з вытворцаў павінен зрабіць гэта менавіта сам. І гэта абяцае немалы выйгрыш. Атэстацыя арганізацыі вытворчасці, сістэмы якасці па стандартах ІСО-9000 адкрывае новыя рынкі.

*Дзяржстандарт Беларусі прадстаўляе рэспубліку ў шэрагу міжнародных арганізацый па стандартызацыі і метралогіі, а старшыня Дзяржстандарта Валерый Карашкоў з'яўляецца каардынатарам паміж Рабочай групай Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН і Міждзяржаўным саветам па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі СНД.*





● Начальнік сектара акустычных вымярэнняў Валянціна Паздзеева праводзіць выпрабаванні тэхнікі на ўзровень шуму.

Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Іван БАРАНОЎСКІ.
Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.





БЕЛГОССТРАХ

**Адной з практычных задач пераходу да рынačнай экaноміkі ў нашай краіне з'яўляецца пераасэнсаванне месца і ролі страхавання ў грамадстве. На пашыраным праўленні Белдзяржстраха давялося яшчэ раз пераканацца: працэс гэты даволі складаны як для страхоўшчыкоў, так і для страхавальнікаў — гаспадарчых суб'ектаў і грамадзян.**

# ФОРМУЛА ЛІДЭРА: АД ЯКАСЦІ СТРАХАВОГА ПРАДУКТУ ЗАЛЕЖЫЦЬ ЯКАСЦЬ ЖЫЦЦЯ

### АГЛЯНУЦЦА Ў ДЗЕНЬ ... ЗАЎТРАШНІ

Уласна кажучы, сабралася страхавая эліта галоўным чынам каб падвесці вынікі года мінулага. Але неяк так удала пайшла размова — і дакладчык, генеральны дырэктар Віктар Іванавіч Шуст задаў тон, і астатнія гэты тон прынялі і падтрымалі — што, гаворачы аб пражытым, бачылі перш за ўсё перспектыву. Грунтуючыся на накопленым вопыце, станоўчым і адмоўным, вызначалі стратэгію і тактыку года 1998-га.

Што дытычыцца вынікаў, то яны разглядаліся ў агульным кантэксце развіцця эканомікі рэспублікі. І ацэньваліся даволі прынцыпова. Калі гаварыць канкрэтна, то ў параўнанні з 1996 годам узрасла колькасць заключаных дагавораў страхавання. Аб'ём страхавых узносаў па ўсіх відах страхавання *павялічыўся* ў 1,5 *раза*, што забяспечыла выкананне бізнес-плана. Насельніцтву і суб'ектам гаспадарання выплачана больш як 178 мільярдаў рублёў кампенсацыі. У бюджэт і пазабюджэтныя фонды пералічана 75 мільярдаў рублёў у выглядзе падаткаў і іншых плацяжоў. Лічбы вельмі ўражальныя.

Але калі мець на ўвазе нешта большае, чым проста лічбы, то варта зазначыць: мінулы год быў годам далейшага станаўлення страхавога рынку ў Беларусі. І Белдзяржстрах, застаючыся лідэрам, па-ранейшаму займаў у гэтым працэсе вызначальнае месца.

Ёсць заслуга яго кіраўнікоў і супрацоўнікаў у тым, што грамадскасць стала крыху ясней усведамляць неабходнасць страхавой абароны. З «падачы» і пры непасрэдным удзеле адзінай дзяржаўнай і самай буйной больш чым з 60 страхавых кампаній,падрыхтавана і прынята за апошні час некалькіх сур'ёзных дакументаў, і перш за ўсё Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 кастрычніка 1997 года «Аб абавязковым страхаванні будынкаў, што належаць грамадзянам».

Напомнім, што гэтаму папярэднічалі два магутныя ўдары стыхіі — майскі і чэрвеньскі, якія пакінулі тысячы сем'яў без даху над галавой, а бюджэту каштавалі непрадбачаных велізарных расходаў. Выплаціўшы пасля разгулу стыхіі значныя сумы страхавога пакрыцця (у некалькі разоў большыя, чым усе астатнія страхавыя кампаніі, разам узятыя), Белдзяржстрах атрымаў маральнае права даводзіць на ўсіх узроўнях, што над калектыўнай і людской маёмасцю патрэбна як мага хутчэй раскрыць «страхавы парасон», які мінімізуе выдаткі з бюджэту і зробіць для нашых суайчыннікаў працэдуру атрымання кампенсацыі цалкам цывілізаванай.

Мы маглі б сказаць, што год стаў пераломным у гэтым сэнсе, калі б заканадаўцы паслухаліся прафесіяналаў і прынялі ўсе тыя дакументы, якіх патрабуе час. Але «выспяванне» заканадаўцаў ідзе марудна. Як і большасці выбаршчыкаў; ім да гэтага часу здаецца, што невялікія па сваіх памерах страхавыя ўзносы — проста яшчэ адзін падатак. На складанасці з удасканаленнем заканадаўчай базы наракаў на пасяджэнні і старшыня Дзяржстрахнагляду Мікалай Лёсік. А ён ведае, што гаворыць.

І ўсё ж «працэс пайшоў». У гэтым свая прымета і свая заслуга года мінулага.

### КАНСТРУКТЫЎНАСЦЬ

Агульны настрой такім і быў — канструктыўным, самакрытычным. Калі і хвалілі, то часцей нізавыя звёны — ад сілы калектывы трох дзесяткаў перадавых аддзяленняў з раёнаў. Усім астатнім не пераставалі паўтараць, што эфектыўнасць магла б быць і большай. Прычынай такой настроенасці паслужыў той факт, што летась крыху знізілася ўдзельная вага сабраных Белдзяржстрахам узносаў па ўсіх відах страхавання ў агульным аб'ёме ўзносаў страхавых кампаній рэспублікі — з 42,9 працэнта ў 1996 годзе да 38,4 працэнта па стану на 1 кастрычніка 1997 года (іншых даных пакуль няма). Дакладчык назваў гэты сімптом трывожным і зрабіў выснову, што тэмпы развіцця іншых страхавых арганізацый у такім разе маглі аказацца вышэйшымі.

У чым жа прычыны зніжэння? На працягу мінулага года скараціліся паступленні ўзносаў ад страхавання сельскагаспадарчых культур і шматгадовых насаджэнняў. Многія прадстаўніцтвы на месцах лічаць гэтую паслугу стратнай і згротваюць яе аказанне. Але не ўсе. У магіляўчан, напрыклад, свой пункт погляду на праблему. Таму, відаць, больш правільным будзе сказаць, што патрэбна не столькі адмаўляцца, колькі ўдасканальваць правілы і ўмовы страхавання сельгаскультур і шматгадовых насаджэнняў. І адначасова больш увагі ўдзяляць страхаванню асноўных сродкаў калгасаў і саўгасаў.

Пры наяўным скарачэнні ўдзельнай вагі ўзносаў ад сельскагаспадарчага страхавання на месцах не змаглі кампенсаваць гэтую страту за кошт страхавання маёмасці іншых юрыдычных асоб. Пры належнай арганізацыі большы плён магла б даць работа па страхаванню грузаў, каштоўнасцяў валютных кас, фінансавых рызык, усіх відаў адказнасці. Застаецца толькі пашкадаваць, што страхаванне паветраных суднаў, укладаў і дэпазітаў, будаўніча-мантажных рызык летась наогул не ажыццяўлялася.

Калі сістэматызаваць, то сёння страхавыя ўзносы можна зблакіраваць у чатыры асноўныя групы: страхавыя паслугі насельніцтву; страхаванне маёмасных інтарэсаў юрыдычных асоб; страхаванне ўсіх відаў адказнасці; абавязковае страхаванне. У гэтых групах Белдзяржстрах і мог бы рэалізаваць, зыходзячы з атрыманых ліцэнзій, звыш 60 відаў страхавання. Але актыўна эксплуатуюцца ўсяго некалькі відаў. Асноўную долю паступленняў далі страхаванне пабудоў, хатняй маёмасці і транспартных сродкаў. А што ж з астатнімі? Яны пакуль што ў рэзерве. У выніку на тысячу насельніцтва ўсяго каля 200 страхавых полісаў. Такім чынам, для забеспячэння страхавой абароны грамадзян і суб'ектаў гаспадарання трэба шмат папрацаваць.

### НА ВАЙНЕ САЛДАТ ВАЖНЕЙ ЗА ГЕНЕРАЛА

На нарадзе прагучала думка, што далейшае развіццё страхавой справы залежыць ад стылю і метадаў работы. Калі гэта «кабінетны» стыль, то высокіх паказчыкаў не чакай. Усе аднадушна прыйшлі да высновы, што зараз час перанесці свае працоўныя месцы ў працоўныя калектывы, населеныя пункты, у дамы і сем'і людзей.

Цэнтральнай фігурай становіцца страхавы агент — прафесіянальна падрыхтаваны, актыўны. Яго асабістыя якасці забяспечаць альбо поспех, альбо правал у рабоце. Дакладным паказчыкам актыўнасці страхавых агентаў з'яўляецца зарплата, якую яны атрымліваюць. А яна пачынаецца ад 200 тысяч у месяц у самых інертных, хто толькі фармальна трымаецца за запіс у працоўнай кніжцы, і дасягае некалькіх мільёнаў рублёў у сапраўды актыўных, якія прыносяць немалую карысць. Тут добра сказаў намеснік генеральнага дырэктара Павел Суконкін: нейкай частцы кадраў варта вызначыцца. Калі яны працуюць на страхавым рынку, то на страхавым. Калі на рэчавым, то, значыць, на рэчавым.

Паўла Дзем'янавіча падтрымаў дырэктар прадстаўніцтва па Віцебскай вобласці Серафім Мяцеліца: паказчыкі сярод агентаў і аддзяленняў рэзка палярныя. Некаторыя страхавыя агенты працуюць сем—дзесяць дзён у месяц. У вобласці ўсіх іх аб'ядналі ў брыгады, каб узмацніць кантроль і працоўную дысцыпліну. Робяцца захады, каб павысіць уплыў і страхавых інспектараў. У прыватнасці, разглядаецца варыянт, калі іх зарплата будзе пастаўлена ў залежнасць ад работы інспектарскіх участкаў.

У гамяльчан — свае прапановы: дырэктар прадстаўніцтва Фёдар Грынькоў лічыць, што ёсць сэнс замацоўваць агентаў за страхавымі «палямі», заахвочваць іх за новыя і ўзноўленыя дагаворы, наогул удасканальваць аплату працы работнікаў нізавога звяна.

Трэба сказаць, што тэма гэтая — удасканалення заработнай платы, але ўжо ў рамках усёй Беларускай дзяржаўнай страхавой арганізацыі, гучала пастаянна. Напярэдадні нарады Беларускае радыё паведаміла, што заробкі ў работнікаў страхавання — адны з самых нізкіх у народнай гаспадарцы рэспублікі. І многія ўдзельнікі сустрэчы гаварылі якраз аб гэтым. Праўда, існуе і іншы пункт погляду — што праблемы няма, бо здзельная аплата — гэта механізм «прамога дзеяння», і калі ёсць страхавыя паступленні, то будуць і адлічэнні на матэрыяльнае заахвочванне.

Значыць, падумаць ёсць над чым. І вырашаць у комплексе з задачамі, якія зараз пастаўлены перад Белдзяржстрахам.

### ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА — ДЛЯ ЎСІХ ДЭКРЭТ

Бадай, важнейшая з іх — своечасовае і поўнае выкананне прэзідэнцкага дэкрэта аб абавязковым страхаванні пабудоў, што належаць грамадзянам на правах уласнасці. Аб гэтым гаварыў кожны другі. Песімісты (у асноўным з канкурыруючых структур) прадракаюць правал з тэрмінамі і ахопам. Аптымісты вераць у магчымасці разгалінаванай сеткі прадстаўніцтваў і аддзяленняў Белдзяржстраха. Многае будзе залежаць і ад саміх страхавальнікаў і ад органаў улады. Не выпадкова Савет Міністраў ужо ў студзені гэтага года прыняў пастанову аб парадку ажыццяўлення абавязковага страхавання, у якой вызначыў шэраг задач і для выканаўчых і распарадчых органаў на месцах, для МУС і Мінжылкамгаса, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання. «Вузялкоў» разам давядзецца развязваць нямала. Ужо зараз вядома, што падраздзяленні рэспубліканскага цэнтра па ўліку нерухомасці (былыя БТІ) па сваёй ініцыятыве да гэтага часу не займаліся пабудовамі, якія належаць грамадзянам (хіба толькі па заявах). А для паўсюднага абследавання патрэбны будуць асігнаванні.

Тэма ўзаемадзеяння з органамі мясцовай улады «чырвонай ніткай» праходзіла праз даклад і многія выступленні. Віктар Шуст падкрэсліў, што якраз гэта станоўча паўплывала на развіццё страхавой справы ў Віцебскай вобласці. Прысутным запомніўся расказ дырэктара аддзялення па Браслаўскаму раёну Тэрэзы Каптур. Тэрэза Станіславаўна дабілася ўключэння сваёй справаздачы ў парадак дня выканкама. На яго пашыраным пасяджэнні прысутнічалі ўсе кіраўнікі працоўных калектываў раёна. У рашэнне ўключылі пункт, які абавязваў іх адшукваць сродкі для правядзення шырокага страхавання.

— Кіраўнікі зусім па-іншаму пачалі ставіцца да нас і нашых прапаноў, — расказвае Тэрэза Станіславаўна. — Мы выступілі ўслед за гэтым са справаздачамі на выканкамах трох сельсаветаў, што таксама прынесла сваю карысць. Лічым, трэба ісці ў кожную арганізацыю, у кожны дом.

Акрамя ўсяго, гэта дасць і «геаграфічны» эфект. Эфект большага ахопу страхавымі паслугамі. У гэтым сэнсе шмат работы нават у сталіцы. Тут нядрэнна працуе аддзяленне па абслугоўванню юрыдычных асоб. Адных аўтамабіляў застрахавана шэсць тысяч. Дагаворы заключаны з буйнейшымі транспартнымі арганізацыямі Мінска. І на ўсю гэтую неспакойную кліентуру ў аддзяленні — адзін інжынер, які ў асобныя дні літаральна «разрываецца» на чатырох-пяці выездах. Буйны мегаполіс для страхоўшчыкаў — сапраўдны Кландайк, і быў бы грэх не выкарыстаць прадастаўленыя ім магчымасці. Генеральны дырэктар так і сказаў: «Патэнцыял Мінска павінен працаваць, і ён будзе працаваць».

### КАНКУРЭНТЫ

Кіраўнік мінскага аддзялення па абслугоўванню юрыдычных асоб Аліна Фралова (як і многія іншыя яе калегі — дырэктары) паскардзілася на не зусім добрасумленную канкурэнцыю, якая мае месца на страхавым рынку сталіцы. Аб гэтым гаварылі і бабруйчане, і віцябляне... Праўда, гаварылі па-рознаму. Адны падкрэслівалі, што Белдзяржстрах — арганізацыя дзяржаўная, і трэба каб яна карысталася перавагамі перад усімі іншымі. А іншых, асабліва дробных, якія «блытаюцца пад нагамі, нічога людзям не плацяць, а толькі адбіваюць у тых ахвоту страхавацца», можна было б і пазакрываць. Прыводзіліся прыклады, калі прыватныя страхавыя кампаніі друкуюць свой гадавы баланс, і ў ім страхавыя выплаты кліентам за год — 800 мільёнаў, затое ўласныя «расходы на вядзенне справы» — 18 мільярдаў. А расходы гэтыя — справа вядомая: зарплата, прэміі, набыццё іншамарак і гэтак далей. Якая ад таго карысць людзям, дзяржаве?

Другія, і іх была большасць, асуджаючы нядобрасумленныя прыёмы асобных канкурэнтаў, усё ж лічаць: страхавому рынку — развівацца. Іншая справа, што канкурэнцыя павінна быць сумленнай. Намеснік генеральнага дырэктара Вячаслаў Балібок услед за дакладчыкам падкрэсліў: у адзіночку справу страхавання не падымем. Канкурэнтаў калі і перамагаць, то сумленна, эканамічнымі метадамі.

Ветэран Белдзяржстраха, дырэктар аддзялення ў Бабруйску Зінаіда Позняк у сувязі з гэтым выказала неўразуменне дзеяннямі шэрагу канцэрнаў рэспублікі, якія лічаць за лепшае ствараць уласныя, «кішэнныя» страхавыя кампаніі. У Бабруйску пад «крыло» такой кампаніі адышлі ледзь не ўсе буйнейшыя прадпрыемствы — Беларускі шынны камбінат, завод гумава-тэхнічных вырабаў, гідролізны завод, гарбарны камбінат, нафтабаза, якая дзесяткі гадоў была кліентам дзяржаўнай кампаніі. Страхавое акцыянернае таварыства «АГРА» забрала пад сябе сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і перапрацоўку, у тым ліку «Чырвоны харчавік», кансервавы завод. У аўтагрузаперавозчыкаў — уласныя страхоўшчыкі. Засталіся футравая фабрыка, якая фактычна закрыта і не працуе, абутковая фабрыка (на картатэцы), школы, магазіны ды насельніцтва (чытай — пенсіянеры). Вось і папрацуй.

Сапраўды, канкурэнцыя — справа жорсткая і непрадказальная. Але дзе рынак, там і яна. І перамагае мацнейшы. Белдзяржстрах мае ўсе падставы лічыць сябе мацнейшым.

Мы ўжо гаварылі, што яго ўдзельная вага ў суме сабраных страхавых узносаў за 9 месяцаў 1997 года склала 38,4 працэнта. Але ў тых, хто па рэйтынгу стаіць побач, у дзесятцы мацнейшых, доля — ад 7 да 2 працэнтаў. А далей — наогул адзінка і яшчэ ніжэй. Ацэньваючы магчымасці Белдзяржстраха, варта прыняць пад увагу разгалінаваную сетку яго прадстаўніцтваў у абласцях і аддзяленняў у буйных гарадах і пераважнай большасці раённых цэнтраў. Дадаць міжнародныя сувязі. І не забыць яшчэ адзін важны фактар — падтрымку з боку дзяржавы, тыя гарантыі, на якія можа разлічваць «у выпадку чаго» кліент Белдзяржстраха. І думка, што менавіта ён павінен быць заканадаўцам моды ў сваёй галіне, не выкліча ў вас сумненняў.

Здаецца, да яе пачынаюць прывыкаць і ў самім Белдзяржстраху. Ва ўсякім разе, праграму на гэты год тут вызначылі сабе напружаную. Цалкам лідэрскую: мабілізаваць 973 мільярды рублёў, а гэта ў 2,1 раза больш мінулагодняга. Трэба будзе папрацаваць так, каб колькасць дагавораў па ўсіх відах страхавання няўхільна расла. Чаго немагчыма дабіцца без больш актыўнай работы ўсіх структурных падраздзяленняў, без дэталёвага вывучэння страхавога рынку і вылучэння на гэты рынак новых канкурэнтаздольных страхавых прадуктаў.

Не менш як 63 мільярды рублёў плануецца атрымаць ад інвестыцыйнай дзейнасці — аб шляхах дасягнення гэтай мэты, эфектыўным выкарыстанні інвестыцыйных сродкаў гаварылі намеснікі генеральнага дырэктара Вячаслаў Балібок і Валерый Позняк, загадчык сектара эканамічнага ўпраўлення Савета Міністраў РБ Пётр Кучэрын.

На поўны рост паўстала праблема рэструктурызацыі. Комплекс мерапрыемстваў па арганізацыйнай, кіраўніцкай, фінансавай і тэхнічнай адаптацыі Белдзяржстраха да канкрэтных умоў нацыянальнай эканомікі пачне ажыццяўляцца ўжо сёлета. Адзін з яго найбольш прыкметных пунктаў — нараджэнне дачынай арганізацыі, якая зоймецца страхаваннем рызык, звязаных са знешнеэканамічнай дзейнасцю суб'ектаў гаспадарання.

Належнае месца ў агульным комплексе мераў, гаварылася на нарадзе, павінна заняць і прапагандысцкая, растлумачальная работа сярод насельніцтва, у працоўных калектывах. Давер да сістэмы трэба аднаўляць і словам, і справай. Памятаючы пры гэтым, што людзі ўсё ж вераць спачатку справе, а потым ужо слову.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ,**
**аглядальнік «Звязды».**




**Белдзяржстрах імкнецца быць у цэнтры падзей. Адной з апошніх буйных яго акцый стала страхаванне членаў нацыянальнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на XVIII зімовых Алімпійскіх гульнях у Нагана. У тым ліку хакейнай дружыны. Галоўны спецыяліст аддзела маркетынгу Ірына ПУГАЧ шчыра жадае беларускім алімпійцам удачы. А разам з ёй і мы, журналісты і чытачы «Звязды».**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ:

## «Радок у гісторыі Айчыны»



# СУСВЕТНЫ ПОМНІК ПРАВАВОЙ ДУМКІ

## 410 ГАДОЎ ТАМУ ЗАЦВЕРДЖАНЫ III СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

СТАТУТ Вялікага княства Літоўскага 1588 года займае самае пачэснае месца сярод сусветна вядомых помнікаў прававой думкі, такіх як законы Хамурапі, законы Ману, Кодэкс Юсцініяна, Законы дванаццаці табліц і іншыя. Мала якія з прававых дакументаў дзейнічалі на той ці іншай тэрыторыі такі працяглы адрэзак часу, як гэты: Статут ВКЛ з'яўляўся рэгулятарам адносінаў на землях Беларусі, Літвы і Украіны на працягу ажно двух з паловай стагоддзяў!

Распрацоўкай канстытуцыйнага права на спрадвечных беларускіх тэрыторыях займаліся яшчэ ў XIV стагоддзі, калі ўзніклі агульназемскія і абласныя прывілеі (граматы). Аднак яны былі, так бы мовіць, мясцовага значэння. Але ўжо ў 1447 годзе вялікі князь Казімір IV выдаў прывілей, дзеянне якога распаўсюджвалася на ўсё Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Пэўны ўплыў на жыццё ўсяго ВКЛ аказвалі судзебнік таго ж Казіміра IV, зацверджаны на пачатку 1468 года (складзены на аснове мясцовага, так званага звычаёвага, права і судова-адміністрацыйнай практыкі, ён, дарэчы, быў напісаны на беларускай мове); прывілеі вялікіх князёў Аляксандра (1492 г.), Жыгімонта I Старога і Жыгімонта II Аўгуста. Найбольш жа поўна і скампанавана канстытуцыйныя нормы былі выкладзены ў Статутах вялікага Княства, зацверджаных у 1529, 1566 і ў 1588 гадах.

Статут ВКЛ 1529 года ўяўляў сабой збор законаў феадальнага права і дзейнічаў у княстве ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Першапачатковыя прававыя акты, што ўзнікалі на Полацкай, Наваградскай, Берасцейскай, Пінскай землях, не былі адзінымі, адрозніваліся трактоўкай тых ці іншых палажэнняў. Аднак паступова, на працягу XIV—XVI стагоддзяў, адначасова з працэсамі кансалідацыі зямель у саставе Вялікага княства Літоўскага, адбываўся і працэс уніфікацыі права. Такім чынам, з'яўленне Статута 1529 года стала справай заканамернай і натуральнай. На вялікі жаль, невядомыя імёны складальнікаў Статута, аднак ёсць думка, што сярод іх быў і наш выдатны асветнік і першадрукар Францыск Скарына.

У Статуце 1529 года юрыдычна замацоўваліся асновы грамадскага і дзяржаўнага права ў Вялікім княстве Літоўскім, прававое становішча класаў, саслоўяў і сацыяльных груп насельніцтва, парадак утварэння, састаў і паўнамоцтвы некаторых органаў дзяржаўнага кіравання і суда. Аб'яўлялася права, згодна з якім усе асобы, «як убогія, так і багатыя», павінны былі судзіцца толькі паводле тых нормаў, што былі сфармуляваны ў Статуце. Гасудар, у адпаведнасці з гэтым зборам законаў, абавязваўся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць чужынцаў на дзяржаўныя пасады на Беларусі, Украіне і ў Літве, не даваць ім маёнткаў...

Першы Статут ВКЛ стаў, несумненна, выдатнай падзеяй у жыцці беларускай дзяржавы. Але новыя, больш складаныя, сацыяльна-эканамічныя і палітычныя ўмовы запатрабавалі і новай, больш сучаснай заканадаўчай базы. Статут 1529 года стаў надзейнай і трывалай базай для распрацоўкі наступнага збору законаў феадальнага права — Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 года.

На Беларусі і ў Літве ён дзейнічаў на працягу 1566—1588 гадоў, а на тэрыторыі Правабярэжнай Украіны яшчэ і ў XVII—XVIII стагоддзях. У ім упершыню ў прававой практыцы на тэрыторыі беларускіх зямель выкарыстаны нормы рымска-каталіцкага і грэка-праваслаўнага права, а працавала над праектам Статута спецыяльная камісія з 10 чалавек — 5 праваслаўных і 5 католікаў.

Як і Статут 1529 года, гэты таксама напісаны на беларускай мове і неўзабаве быў перакладзены на лацінскую і польскую мовы.

Вялікую ролю ў фарміраванні юрыдычнага светапогляду, новай свядомасці і грамадскай думкі ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI стагоддзі адначасова з дактрынамі рэфармацыйнага накірунку адыгралі вучэнні Арыстоцеля, Платона, Цыцэрона. Беларускія правазнаўцы і філосафы з гуманістычных пазіцый пераасэнсоўвалі іх, інтэрпрэтавалі прымяняльна да мясцовых умоў. Грунтуючыся на рэнесансным гуманізме, гуманістычная скіраванасць Статута 1588 года цесна перапляталася з хрысціянскімі ідэямі разумення свабоды як сутнаснай якасці чалавека, а яго самога — як вышэйшай каштоўнасці зямнога быцця. Гэта прасочваецца ў многіх з 487 артыкулаў Статута.

Праца над трэцім Статутам была закончана да канца 1584 года. Аднак, паколькі ён ігнараваў акт Люблінскай уніі 1569 года, Польшча, натуральна, не магла пагадзіцца, каб Статут быў зацверджаны на агульным сейме Рэчы Паспалітай. І тады ў мэтах захавання вялікакняжацкага трона Жыгімонт III зацвердзіў яго сваім прывілеем ад 28 студзеня 1588 года.

Статут 1588 года вызначаецца высокім тэарэтычным узроўнем. І ў гэтым найперш заслуга канцлера Вялікага княства Літоўскага Астафея Валовіча і падканцлера Льва Сапегі, якія непасрэдна кіравалі і асабіста ўдзельнічалі ў яго распрацоўцы.

Свайго роду рабочым органам па распрацоўцы нормаў Статута з'яўлялася Статутная камісія. Яе састаў быў зацверджаны на Люблінскім сейме 1569 года. У камісію ўваходзілі: ад паноў-рады — віленскі епіскап Валяр'ян і жамойцкі кашталян Мельхіёр Шэмет, ад Жамойцкай зямлі Ян Сцяцковіч, ад шляхецкага стану ваяводстваў — стольнік Мікалай Дарагастайскі з Вільні і маршалак, князь Лукаш Свірскі з Трокаў, маршалак Бенядзікт Юрага ад Наваградскага ваяводства, князь Павел Сакалінскі (ад Полацкага), Ян Сколка (ад Віцебскага), суддзя Кірдзей Крычаўскі (ад Берасцейскага), Сяліцкі (ад Мсціслаўскага), Марцін Валадкевіч (ад Мінскага) ваяводстваў. Над праектам Статута яны працавалі амаль 20 гадоў, хто-ніхто з іх памёр, аднак звестак аб тым, ці рабіліся замены членаў камісіі, не захавалася.

Статут 1588 года аб'яднаў нормы дзяржаўнага (канстытуцыйнага) права, чаго, між іншым, у той час не было ў заканадаўчай практыцы іншых дзяржаў Еўропы, а таксама нормы адміністрацыйнага, судова-працэсуальнага, ваеннага, шлюбна-сямейнага і апякунскага, спадчыннага, зямельнага,ляснога і паляўнічага, крымінальнага права. «У ім, — адзначаў вядомы сучасны беларускі прававед Язэп Юхо, — адлюстравана багатая прававая культура беларускага народа, на мове якога Статут напісаны, а беларуская прававая лексіка склала яго аснову. У адрозненне ад Заходняй Еўропы, дзе карысталіся рымскім правам, выкладзеным на незразумелай для многіх лацінскай мове, тэкст Статута быў зразумелым пераважнай большасці мясцовага насельніцтва. Мовай Статута ганарыліся яго сучаснікі».

Падканцлер Леў Сапега, як засведчылі ягоныя сучаснікі, унёс у распрацоўку Статута 1588 года неацэнны ўклад. На вялікі жаль, мы толькі зусім нядаўна звярнуліся да асобы гэтага таленавітага і неардынарнага чалавека, спакваля пачынаем па заслугах ацэньваць ягоную ролю, месца і значэнне ў нашай айчыннай гісторыі.

...З гордасцю за сваю зямлю адзначаў Леў Іванавіч у прадмове да выдання: «...не обчым (чужым. — **А. М.**) яким языком, але своим власным права списаныя маем...» А артыкул I раздзела IV Статута сцвярджаў: «А писар земский маеть па-руску литерами и словы рускими все листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы». Такім чынам, зацвярджалася дзяржаўнасць рускай (дакладней — старабеларускай) мовы.

Над Статутам камісія на чале з Валовічам (ён, дарэчы, памёр, так і не дачакаўшыся афіцыйнага ўвядзення Статута, у 1587 годзе) і Сапегам працавала ў Вільні. На яе ўтрыманне быў вызначаны збор асобнага падатку з жыхароў Вялікага княства, акрамя тых, якія насялялі ўкраінскія паветы.

У тым жа 1588-м Сапега за ўласныя сродкі выдаў Статут у друкарні Мамонічаў — найбуйнейшай прыватнаўласніцкай беларускай друкарні Сярэдневечча. У ёй асабліва ўлічваліся кніжнапісьмовыя традыцыі беларускага кнігадрукавання, культурныя і грамадскія запатрабаванні чытачоў. Выданне вызначалася разнастайнасцю мастацкага і паліграфічнага афармлення, выкарыстаннем свецкіх гравюр.

Сам Леў Сапега напісаў да Статута дзве прадмовы: адна — зварот да Жыгімонта III, другая — зварот да грамадзян Вялікага княства. У іх ён выклаў тэарэтычныя і практычныя падставы неабходнасці гэтага новага збору законаў. У тэарэтычных адносінах, зазначаў Сапега, ён апіраўся на каштоўную праватворчасць вядомых заканадаўцаў свету, ацэнкі і высновы славутых мысліцеляў антычнасці.

Такім чынам, звыш чатырох стагоддзяў таму беларус меў у сваім распараджэнні выдатны, самы поўны збор прававых актаў — Статут ВКЛ 1588 года. Статут, які не толькі рэгуляваў сацыяльна-прававыя адносіны ў дзяржаве, але і абараняў чалавека, не дазваляў ганьбіць і ганіць ягоныя гонар і годнасць. На жаль, на вялікі жаль, потым наш братка-беларус перастаў чалавекам звацца...

Але гэта ўжо іншая тэма. Статут жа ВКЛ 1588 года і сёння можа (і павінен!) быць узорам для нашых, айчынных заканатворцаў. Бо сапраўды: навошта выдумляць «веласіпед», калі яго ўжо бліскуча зрабілі іншыя — нашыя ж папярэднікі!?

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*Гэта мы, Госпадзі...*

# СВЯТЫЯ ПУСТКІ

Кожны дзень сотні людзей праходзяць па пустцы, што на плошчы Свабоды ў Мінску, праваруч ад Дома прафсаюзаў вобласці. І ніхто не спыніцца, не азірнецца. Каму цікавы лапік голай зямлі, які, колькі сябе памятаем, заўжды такім быў? Пра тое, што тут некалі ўзвышаўся велічны Храм — адзін са старажытнейшых ва Усходняй Еўропе, — памятаюць толькі старажылы. Ды і то ўспамінаюць пераважна ў звязку з няўдала здзейсненым ля яго сцен замахам эсэра Івана Пуліхава на крывавага губернатара Курлова ў студзені 1906 года.

Пустка занядбаная і маўклівая. Але здаецца, што з-пад зямлі голасам уцалелых шматвекавых падмуркаў распавядае сама Гісторыя...

У XVI стагоддзі на гэтым месцы (тагачасная плошча Верхняга рынку) стаяла драўляная Святадухаўская царква. У пачатку XVII стагоддзя яна адышла да уніяцкага манастырскага ордэна базыльян і ў 1636 годзе перабудавана ў каменную. Пасля канчатковага ўключэння беларускіх зямель у састаў Расійскай імперыі (1795 г.) царкву Святога Духа пераасвяцілі ў праваслаўны Петрапаўлаўскі сабор, які праз тры гады стаў кафедральным. Каб больш выразна паказаць яго канфесіянальную прыналежнасць, у 1850—57-м, а потым у 1897 годзе гмах перабудавалі ў псеўдарускіх формах маскоўска-яраслаўскага дойлідства **(гл. здымак 1)**. Дамінуючае становішча храма ў сілуэце горада ўзмацніла высокая вежа-званіца. Далёка на ўскраінах Менска быў чутны перазвон, што даносіўся з яе.

Больш за 4 стагоддзі ў саборы захоўвалася старажытная цудадзейная ікона Божай Маці. Паводле падання, менавіта яе Святы Уладзімір некалі размясціў у кіеўскай Дзесяціннай царкве, дзе яна знаходзілася каля 500 гадоў. У XV стагоддзі, падчас татарскіх набегаў на Кіеў, апошні быў разрабаваны, а ікона пазбаўлена ўпрыгажэнняў і кінута ў Дняпро. Праз нейкі час яна прыплыла ў Менск па рацэ Свіслач і 13 жніўня 1500 года была заўважана жыхарамі на беразе насупраць замка дзякуючы незвычайнаму ззянню.

Ужо ў 1918 годзе новыя ўлады паспрабавалі сарваць рызу са святой іконы. Тады вернікі назбіралі столькі золата, колькі важыла рыза. Але гэта не перашкодзіла бальшавікам здзейсніць сваё блюзнерства праз нейкі час.



Петрапаўлаўскі кафедральны сабор (фота пачатку XX стагоддзя).



Харкаўскае «блізня» мінскага Свята-Казанскага храма.

У 1930 годзе ў Мінску забаранілі перазвон. У 1934-м паступіў загад зняць з цэркваў усе званы, у тым ліку і гіганцкі звон Петрапаўлаўскага сабора, атрыманы ў 1870 годзе ў дар ад слуцкіх князёў. Звон той важыў 320 пудоў і быў напалову выраблены з чыстага срэбра. Галоўны храм Мінска становіцца... зернясховішчам.

У маі 1936-га Кафедральны сабор зруйнавалі. Месца на плошчы Свабоды, дзе ён знаходзіўся, расчышчалі ад бітай цэглы ажно некалькі гадоў. Потым сюды прывезлі жалезныя клеткі і зрабілі звярынец.

Усяго тыдзень прайшоў пасля разбурэння Кафедральнага сабора, і на другім канцы Мінска прагучаў новы выбух —падрывалі прывакзальны Свята-Казанскі храм. Той быў узведзены ў 1914 годзе за кошт ахвяраванняў чыгуначных служачых. Сродкі на яго ўзвядзенне збіраліся амаль 20 гадоў! Дарэчы, лёс Свята-Казанскага сабора паўтарае трагедыю маскоўскага Храма Хрыста Збавіцеля, які таксама быў узведзены на народныя ахвяраванні і які таксама прастаяў усяго некалькі дзесяцігоддзяў (узарваны ў 1931-м). Толькі, у адрозненне ад апошняга, ужо «уваскрэслага», на месцы былога Казанскага сабора ў Мінску і па сённяшні дзень знаходзіцца плошча Мяснікова — таксама, па сутнасці, пустка. Камень у яе цэнтры анансуе, што тут будзе пастаўлены помнік гэтаму савецкаму дзеячу. Мяркую, ужо ніколі не будзе пастаўлены.

Мінулым летам, апынуўшыся ў Харкаве, я быў здзіўлены, убачыўшы амаль двайніка мінскага Прывакзальнага храма, знаёмага толькі па архіўных фотакартках. Такое ж бліскучае ўвасабленне візантыйскага архітэктурнага стылю. Харкаўчанам пашанцавала: зберaглі сваю жамчужыну. Мінчукам, на жаль, не ўдалося. У 1930 годзе Казанскі сабор быў пераўладкаваны пад клуб чыгуначнікаў, а праз шэсць гадоў — зруйнаваны. Дзеля гэтага спецыяльна з Масквы быў «выпісаны» славуты на той час спецыяліст па падрыву культавых пабудоў Грыгарэнка. За знішчэннем храма з балкона Дома ўрада назіралі тагачасныя кіраўнікі Беларусі: Чарвякоў, Галадзед, Гікала... Роўна праз год яны самі стануць ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Старажытная мудрасць: калі стрэліш у гісторыю сёння, яна застрэліць цябе ў будучым. А падрыўніка генерала Грыгарэнку гістарычны «бумеранг» дагнаў ажно ў сярэдзіне 70-х: ён быў аб'яўлены дысідэнтам.

...Пусткі ў гарадскім ансамблі. Пустэчы ў нашай гістарычнай памяці. Невялічкая (саматужнай вытворчасці) інфармацыйная шыльдачка на слупе наўрад ці колькі-небудзь сур'ёзна яе абудзіць. Але лепш так, чым зусім Янкаміняпомнячымі звацца. Бо пад пусткамі яшчэ захаваліся даволі моцныя падмуркі нацыянальных каштоўнасцяў. Якія некалі павінны паўстаць храмам нашай свядомасці.

**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

*Сёння*

## МЕСЯЦ

**З 9.15 – 2-я месяцавыя суткі.**
**З 22.09 Месяц – у сузор'і Рыбаў.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Пакланенне аковам ап. Пятра; Максіма, Леанілы**
**К. Язэпа, Баляславы, Здзіслава**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовы снег, слабая мяцеліца. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 6—8, Гомелі — 7—9, Мінску — 6—8, Брэсце — 5—7, Гродне — 4—6 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 30-га ўначы — па паўночнаму захаду, удзень — на большай частцы тэрыторыі снег, месцамі мяцеліца; 31-га ўначы на ўсходзе кароткачасовы снег, слабая мяцеліца, удзень без ападкаў. Тэмпература ўначы — 8—13, месцамі да 18, удзень 30-га — 0—5, 31-га — 3—8 градусаў ніжэй нуля.

*Віншаванні*

*Віншуем з 60-годдзем былога дырэктара Краснадворскай СШ* ***Тамару Мікалаеўну ХАУСТОВІЧ****. «Неумолимые года остановить не в нашей власти, так пусть же будет так всегда: чем больше лет — тем больше счастья».*

**Сям'я Лапало.**

*Віншуем з юбілеем дарагую* ***Ганну Харытонаўну ЦЯРЭШЧАНКА*** *з в. Хатоўня Рагачоўскага раёна.*

*Ты живешь, тепло нам излучая,*
*внучку согревая и детей,*
*Ты же все умеешь, дорогая,*
*так прожить подольше ты сумей.*

**Дзеці, муж.**

*Шчыра віншуем нашых дарагіх бацькоў* ***Анатоля Гаўрылавіча і Марыю Навумаўну САЗАНАЎЦОЎ*** *з юбілейным днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці і шчаслівага жыцця.*

**Дачка, зяць, унукі.**

***Ніне Канстанцінаўне ПЫЖЫК*** *з в. Жаберычы Крупскага раёна ў дзень нараджэння жадаем здароўя, дабрыні, кахання, поспехаў у працы.*

**Муж, дзеці, зяць, унукі.**

ПЫТАЛЬНІК

## ПАДОРАНЫМІ ЧЭКАМІ «ЖЫЛЛЁ» ЗА КРЭДЫТ НЕ РАЗЛІЧЫШСЯ

***Мой сын купіў кааператыўную кватэру ў Мінску. Для гэтага ён узяў у банку вялікі крэдыт. Ці магу я ўкласці свае чэкі «Жыллё» ў лік пагашэння доўгу па крэдыту за кватэру сына?***

**Пётр ЗІНКЕВІЧ,** *Крупскі раён, вёска В. Восава.*

Каб адказаць на гэтае пытанне, рэдакцыя «Звязды» звярнулася ў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Кансультант на прыватызацыі гэтай установы Леанід Грэскі паведаміў нам, што чэкі «Жыллё» ў першую чаргу выкарыстоўваюцца для прыватызацыі кватэр. Калі кватэра Пятра Зінкевіча ўжо прыватызавана, ці ён мае прыватнае жыллё, тады ёсць магчымасць выкарыстаць чэкі «Жыллё» і па іншых напрамках. Але гэта датычыцца толькі самога ўладальніка каштоўных папер. Калі вы, спадар Зінкевіч, вырашылі падарыць чэкі «Жыллё» сыну, то трэба мець на ўвазе, што ў гэтым выпадку яны па закону ўжо не індэксуюцца. А гэта значыць, што для пагашэння доўгу па крэдыту іх выкарыстаць ужо нельга. Чэкамі «Жыллё» Пятру Зінкевічу можна разлічыцца за крэдыт сына толькі ў адным выпадку: калі ён пераедзе жыць у купленую сынам хату і прапішацца ў ёй.

## ЦІ ПРАВІЛЬНА АТРЫМАНА КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА АЎТАМАБІЛЬ?

***Я інвалід першай групы. Стаю ў чарзе на аўтамабіль з 1991 года. Па пэўных прычынах я нясвоечасова прайшоў паўторнае абследаванне МРЭК і мне не была выплачана кампенсацыя за 1996 год. 22.08.97 г. я прайшоў МРЭК, дзе быў прызнаны годным да кіравання аўтамабілем. Кампенсацыю за 1996-1997 гг. мне выплацілі ў памеры 2 млн. 200 тыс. рублёў. Чаму мне не выдалі кампенсацыю ў поўным аб'ёме за 1997 год?***

**М. ПЛЯШКО,** *в. Ліпск Ляхавіцкага раёна.*

— Грамадзянін Пляшко Мікалай Ульянавіч, 1933 г. н., з'яўляецца інвалідам першай групы ад агульнага захворвання з 21 мая 1992 года. У маі 1992 года грамадзяніну Пляшко М. У. абласной МРЭК устаноўлена наяўнасць медыцынскіх паказчыкаў для забеспячэння спецаўтатранспартам тэрмінам на два гады, — гаворыцца ў тлумачэнні-адказе з аддзела сацыяльнай абароны Ляхавіцкага райвыканкама. — Кампенсацыя на транспартнае абслугоўванне яму не выплачвалася, паколькі, згодна з Палажэннем «Аб парадку забеспячэння інвалідаў транспартнымі сродкамі і кампенсацыі выдаткаў на іх транспартнае абслугоўванне», зацверджаныя загадам Міністэрства сацыяльнай абароны ад 06.10.1995 г., кампенсацыя на транспартнае абслугоўванне інвалідам першай групы ад агульнага захворвання выплачваецца з 1 студзеня 1996 года.

У жніўні 1997 года Пляшко М. У. паўторна прайшоў абласную МРЭК, дзе яму ўстанавілі наяўнасць медыцынскіх паказчыкаў для забеспячэння спецтранспартам тэрмінам на два гады. 27 жніўня 1997 года грамадзянін звярнуўся ў аддзел сацыяльнай абароны з заявай аб кампенсацыі яму выдаткаў на транспартнае абслугоўванне. Згодна з распараджэннем упраўлення сацыяльнай абароны Брэсцкага аблвыканкама ад 25 верасня 1997 года, грамадзяніну Пляшко М. У. са студзеня 1996 года па 31 снежня 1997 года выплачана кампенсацыя ў суме 2 млн. рублёў, гаворыцца ў адказе.

## ПЫТАННЕ ПРАПІСКІ БУДЗЕ ВЫРАШАНА

***Мой сын з жонкай жыве ў Мінску. Нявестка працуе ў 9-й бальніцы і, будучы яшчэ дзяўчынай, атрымала жыллё ў інтэрнаце і прапісалася ў ім. Але майго сына да нявесткі ў інтэрнат не прапісваюць. Чаму так? Сын вучыўся ў БПА і цяпер там працуе. Праўда, для гэтага давялося прапісацца ў прыватным сектары, але тэрмін прапіскі канчаецца. Што ім рабіць?***

**В. ПРЭДКА,** *г. Ліда.*

У Мінгарвыканкаме нам адказалі, што калі нявестка была прапісана ў несямейным інтэрнаце, то і мужа яе туды не прапішуць. Каб нарэшце вырашыць гэту праблему, дзяўчыне трэба падаць заяву ў бальніцу на атрыманне сямейнага інтэрната. На жаль, з ліста нашай чытачкі невядома, ці ёсць на балансе бальніцы сямейны інтэрнат. Акрамя таго, каб атрымаць памяшканне ў такім інтэрнаце, трэба, хутчэй за ўсё, прастаяць пэўны час у чарзе. Але магчыма вырашыць пытанне прапіскі і іншым чынам. Так, на сённяшні час у БПА ёсць як звычайныя, так і сямейныя інтэрнаты. Калі ў сямейным інтэрнаце зараз няма месцаў, то вашага сына, спадарыня Прэдка, могуць, у якасці выключэння прапісаць і ў звычайным інтэрнаце. Калі ўсе вашы намаганні не дадуць плёну, раім запісацца на прыём да кіраўніка спраў гарвыканкама Людмілы Валодзькінай. Там вашаму сыну абавязкова дапамогуць.

УСЁ ПРА ЎСЁ

### НЕВЯДОМАЕ АБ ВЯДОМЫМ

Няма маланкі без грому? Навукай даказана, што сорак працэнтаў маланак бязгучныя. А таксама тое, што са ста маланак дзве ідуць ад паверхні Зямлі і накіраваны да неба.

А гэта навіна для аматараў салодкага. Не мае рацыі думка, што шакалад псуе зубы і выклікае карыес. Амерыканскія вучоныя даказалі: ласункі, якія ўтрымліваюць парашок какавы, перашкаджаюць утварэнню карыесу і зусім бясшкодныя з пункту гледжання прышчоў.

Не вытрымлівае крытыкі і распаўсюджаная думка, быццам быкоў раздражняе чырвоны колер. Бо гэтыя жывёлы — амаль поўныя дальтонікі! Таму тарэадор мог бы размахваць перад носам быка шэрым або жоўтым плашчом — яго прыводзіць да шаленства выгляд тканіны, якая развяваецца.

### ПАСЫПАЮЧЫ ЗЯМЛЮ ЗОЛАТАМ...

Уявіце сабе, што хтосьці выкідвае штодзённа на вецер каля паўкілаграма золата.

Дзіўна гучыць, але гэта чыстая праўда. Амерыканскі геахімік Фрэзер Гоф выявіў, што менавіта так дзейнічае калумбійскі вулкан Галерас.

Гоф пачаў займацца даследаваннем выкідаў гэтага вулкана год таму, каб зразумець, колькі там утрымліваецца трытыю. Але, як гэта часта бывае, знайшоў зусім не тое, што шукаў.

### ЭПІДЭМСТАНЦЫЯ НА ЯЗЫКУ

Амерыканскія даследчыкі зусім нядаўна вынайшлі, што на языку многіх млекакормячых, у тым ліку і чалавека, выпрацоўваюцца ўласныя антыбіётыкі, якія знішчаюць многія мікробы, што трапляюць у рот разам з ежай. «Калі б гэтага не было, — сказаў кіраўнік групы Майкл Заслаў, — мы хварэлі б больш...»

У выніку свайго адкрыцця медыкі зрабілі і яшчэ адну практычную выснову. Зараз яны мараць вынайсці сродак стымулявання выпрацоўкі прыродных антыбіётыкаў у тых выпадках, калі арганізм пачынае захворваць. Такі метад лячэння будзе куды больш эфектны, чым той, што існуе зараз, калі ўнутр прымаюць штучныя, сінтэтычныя антыбіётыкі.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

УСМЕШКА МАСТАКА



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## КАНТРОЛЬ ЗА ДЗЕЙНАСЦЮ ЖБК АЖЫЦЦЯЎЛЯЕ ВЫКАНКАМ

***Мы з мужам уступілі ў будаўнічы кааператыў. Хацелася б ведаць, калі і як павінны выдзяляцца паверхі, дзе будзе размешчана кватэра. Хто ажыццяўляе кантроль за справядлівасцю вырашэння гэтага пытання?***

**МАРОЗ Р.М.,** *Маладзечанскі раён.*

У Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі нам растлумачылі, што жыллёва-будаўнічы кааператыў дзейнічае на падставе статута, які прыняты ў адпаведнасці з Прыкладным статутам агульным сходам грамадзян, што ўступаюць у кааператыў. Кіруюць ЖБК агульны сход (сход упаўнаважаных) і праўленне кааператыва. Агульны сход (сход упаўнаважаных) лічыцца правамоцным, калі ў ім прымаюць удзел не менш як 2/3 агульнай колькасці членаў кааператыва (упаўнаважаных). Па некаторых пытаннях для прыняцця адпаведнага рашэння неабходна наяўнасць 3/4 калектыву ЖБК. Усе пералічаныя моманты павінны рэгулявацца ў статуце кааператыва. Рашэнне аб спосабе размеркавання кватэр прымаецца менавіта на агульным сходзе.

Кантроль за дзейнасцю ЖБК ажыццяўляе мясцовы выканкам, які мае магчымасць паставіць перад агульным сходам пытанне аб адмене прынятых рашэнняў у тым выпадку, калі яны супярэчаць заканадаўству. Грамадзянска-прававыя спрэчкі паміж жыллёва-будаўнічым кааператывам і яго членам таксама падлягаюць вырашэнню ў судовым парадку. Так што ўсе несправядлівыя дзеянні з боку кіраўніцтва (праўлення) ЖБК кожны з грамадзян, што ўваходзяць у састаў кааператыва, можа аспрэчваць — звяртацца ў выканкам ці ў суд.

## ЛЕЙКОЗ — ХВАРОБА КАРОЎ. АЛЕ НЕ ДАЯРАК

***Я даўно працую даяркай і абслугоўваю групу з 28 кароў, якія ўсе хворыя на лейкоз. Мяне цікавіць, ці перадаецца гэтая хвароба людзям?***

**З павагай ЛЁТКА Л. Е.,** *Мядзельскі раён.*

Спяшаемся супакоіць: людзям лейкоз кароў не перадаецца. Як паведаміў галоўны ветэрынарны ўрач рэспублікі Станіслаў Шпілеўскі, кантакт з хворай жывёлай не нясе пагрозы для здароўя тых, хто яе даглядае. А вірус лейкозу гіне пры тэмпературы +70°С, так што пасля пастэрызацыі малако можна ўжываць без хвалявання. Мяса таксама апрацоўваецца па агульных нормах, калі ў лімфатычных вузлах не выяўлена змяненняў. У адваротных выпадках яно знішчаецца.

## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

### 30 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Проціпаказана гультайнічаць: усе пасіўныя людзі ў гэты дзень слабыя, можа раптоўна пагоршыцца самаадчуванне. Гэта перыяд актыўнай барацьбы, высвятлення адносінаў, калі можна пачынаць судовыя працэсы па аднаўленню справядлівасці. Але ва ўсіх справах неабходна прытрымлівацца закона. Спрыяльны час для важных перамоў, падпісання дагавораў, паступлення на новую работу. Сёння лепш быць «на другіх ролях», не кіраваць. Нельга хлусіць, скандаліць, парушаць клятву, дагавор. Добра працаваць з металам, тачыць нажы, нажніцы, стрыгчыся. Можна схадзіць у сауну і папарыцца. Недапушчальнае курэнне.

**АДЗЕННЕ.** Спрыяльныя сінія тоны, пазбягайце жоўтага і зялёнага колераў.

**ПРЫМЕТЫ.** Знайсці падкову — да ўзнагароды, а якую-небудзь ёмістасць — да матэрыяльнага дабрабыту і ўдачы. Калі вам трапляюцца вяроўкі, петлі — знак пазбаўлення ад небяспекі. Разбіць люстэрка — да разбурэння вашай абароны. Ламаюцца вагі ці іншыя вымяральныя прыборы — знак падману, хаосу, дэзарыентацыі.

**СНЫ.** Сімвалічныя сны не трактуюцца. Бачыць коней — знак дапамогі зверху. Убачыць сваіх блізкіх — да суму і няўдач. Бачыць сябе голым — да выкрыцця вашых тайнаў, вас могуць зславіць на слове.

**МЕДЫЦЫНА.** Слабыя органы пачуццяў, скура, павышаная небяспека алергіі. Не рэкамендуецца рабіць масаж ног. Проціпаказаны прыём лякарстваў. Нельга падвяргацца гіпнозу і энергетычнаму ўздзеянню. Забаронены аперацыі на печані і нагах. Спрыяльны час для лячэння кішэчніка.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**29 студзеня**

***350 гадоў назад*** (1648) у Слуцку адкрылася першая на Беларусі грамадская аптэка.

***130 гадоў*** з дня нараджэння (1868-1918) Каруся Каганца (К. К. Кастравіцкага), аднаго з пачынальнікаў беларускага Адраджэння, празаіка, паэта, драматурга, мастака, скульптара, вучонага-лінгвіста. 13 лютага 1997 г. у Засульскай СШ Стаўбцоўскага р-на адкрыты музей Каганца.

***120 гадоў*** з дня нараджэння (1878-1941) У. І. Самойлы, беларускага і рускага публіцыста, даследчыка літаратуры, філосафа-эстэтыка, актыўнага ўдзельніка адраджэнскага культурна-грамадскага руху.

***75 гадоў*** з дня нараджэння (1923) Б. Ф. Кавецкага, мастака кіно і тэлебачання.

***75 гадоў*** з дня нараджэння (1923) У. С. Камарова, вучонага ў галіне калоіднай хіміі, акадэміка АН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі.

## ФІЛЬМАТЭКА

- МОГІЛКІ ЛЕТУЦЕННЯЎ
- СКАЛА
- ЛОГАВА ЗМЕЯ

Новую мастацкую кінастужку **«Могілкі летуценняў»** перадае на суд гледачоў кінастудыя «Грузія-фільм». Пастаноўку карціны па свайму сцэнарыю, напісанаму ў садружнасці з Іракліем Саламанішвілі, ажыццявіў рэжысёр Георгій Хайндрава.

1992 год. Абхазія. Менавіта тут былі сфарміраваны, узброены (рускай зброяй) і абучаны банды Басаева і Радуева. Ім процістаялі тады юныя добраахвотнікі з грузінскага апалчэння.

Некаторыя з іх зняліся ў гэтым фільме, заснаваным на дакументальным матэрыяле і знятым усё там жа, у Абхазіі, у час вайны. Здымкі і мантаж рабіліся ў перыяд з 1993 па 1996 год.

Разам з групай узброеных дылетантаў мы акунёмся ў прыфрантавы быт, станем сведкамі некалькіх аперацый па «зачыстцы», убачым імклівую контратаку абхазцаў.

А пасля будзе дэсант на Сухумскае ўзбярэжжа... Галоўных герояў іграюць Аўтандзіл Цхетладзе, Геругрыбій Натамідзе, Таіза Берузіяні, Георгій Мікадзе.

У ЗША знята мастацкая кінакарціна **«Скала»**. Яе паставіў рэжысёр Майкл Бэй, сцэнарый напісалі Дэвід Уайсберг, Дуглас С. Кук, Марк Роснер.

Завязка гэтай звышдраматычнай гісторыі нагадвае нешта ўжо бачанае на экране: чалавек, які не ведае ні чалавечнасці, ні сумненняў, пагражае пусціць у ход зброю страшнай сілы, калі яму не адлічаць суму са шматлікімі нулямі. Праўда, генерал Хамел, паабяцаўшы даць ракетны залп па амерыканскім узбярэжжы, у адрозненне ад карыслівых маньякаў з іншых фільмаў, як ні дзіўна, мае даволі высакародныя намеры. І наогул у самы апошні момант высвятліцца, што ён проста блефаваў і ніколі не пайшоў бы на масавае забойства.

У галоўных ролях заняты Шоно, Конеры, Нікалас Кейдж, Эд Харыс.

Амерыканскімі кінамайстрамі створана таксама мастацкая кінастужка **«Логава змея»**. Аўтар сцэнарыя — Марк Розенберг, рэжысёр — Джэфры Райнер.

Змена месца жыхарства заўсёды звязана з нейкімі ўзрушэннямі. Але ці мог уявіць малады бізнесмен Том Бенет, што перасяленне ў новую кватэру твар у твар сутыкне яго з акультнымі сіламі і ператворыць жыццё ў жах!

Пачалося з дробязяў. Стала вядома, што былы ўладальнік кватэры, археолаг Стывен Камерон, нечакана пакончыў з сабой пры даволі дзіўных абставінах. Пасля яго засталіся незразумелыя кнігі, прадметы, загадкавыя надпісы на сценах. Засталася і чорная кошка. Яе агрэсіўнасць прывяла на бальнічны ложак жонку Тома Алекс, а да самога Тома — вернага мужа — у пакутлівых эратычных снах стала прыходзіць чароўная чорнавалосая прыгажуня.

А пасля наяве з'явілася жанчына, вельмі падобная на незнаёмку са сноў...

У ролях — Джэф Фейхі, Ліза Бі, Хізер Мэвей.


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.
ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком, носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850.
Зак. № 469.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12